# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 33 (3249) Год LXIII Беласток, 19 жніўня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Штраф за абрады → 3



Доктар ад Бога → 5

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Калектыў народнага танца «Перапёлка» ўжо 25 гадоў дзейнічае пры Гайнаўскім доме культуры. Яго ўдзельнікі займальна прэзентуюцца з беларускімі народнымі танцамі, апранутыя ў касцюмы, пашытыя паводле традыцыйных беларускіх узораў. «Перапёлка» выступае таксама з многімі польскімі народнымі танцамі, якія паказваюць у касцюмах розных рэгіёнаў Польшчы. У рэпертуары калектыву маюцца таксама ўкраінскія танцы.**



# 25 гадоў гайнаўскай «Перапёлцы»

У час юбілейнага канцэрта, які ў летнюю суботу быў арганізаваны ў канцэртнай зале Гайнаўскага дома культуры з нагоды 25-годдзя «Перапёлкі», займальна запрэзентаваліся каля сотні танцораў. Захапілі яны публіку польскімі, беларускімі і ўкраінскімі народнымі танцамі. Перапляталіся яны падчас выступаў чатырох груп танцавальнага калектыву «Перапёлка», з якім у ГДК паспяхова займаецца мастацкі кіраўнік Юсцінія Бірыцкая. Козырамі «Перапёлкі» з'яўляюцца добрыя танцавальныя ўмельцасці дзетак і моладзі, займальныя харэаграфічныя распрацоўкі і шыкарныя рознакаляровыя касцюмы танцораў. Выступы на сцэне пачаліся з танца «Паланэз». Найстарэйшыя танцоры пачалі сыходзіць са сцэны, а іншыя ўваходзілі ў канцэртную залу з калідора. Усе апранутыя ў шыкарныя касцюмы карагодам хадзілі паміж гледачамі крокамі танца «Паланэз». Пазней танцоры так разагрэлі шматлікую публіку, што тая моцна апладзіравала.

Гасцямі юбілейнага канцэрта былі віцэ-старaста Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і намеснік бургамістра Андрэй Скепка, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, ваяводскія, павятовыя і гарадскія радныя, прадстаўнікі няўрадавых арганізацый, у тым ліку намеснік старшыні БГКТ Васіль Сегень, кіраўнікі культурна-асветных установ. Гасцей і шматлікую публіку прывітаў гаспадар мерапрыемства — дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч.

Падчас юбілейнага канцэрта займальна выступілі ўсе танцавальныя групы «Перапёлкі», пачынаючы з дашкольнікаў, а канчаючы на вучнях звышгімназічных і выпускніках сярэдніх школ. Танцоры заявілі, што з «Перапёлкай» можна цікава і актыўна праводзіць час, развучваючы танцы і выязджаючы на выступы.

— Народны танец дазваляе вучням і нават дашкольнікам незвычайна праявіць фізічную і эмацыйную актыўнасць. Падчас рэпетыцый і выступаў нашы дзеткі і моладзь разгортваюць свае зацікаўленні, цікава праводзяць вольны час. Маладыя танцоры вучацца правільна стаяць, хадзіць, у выніку папраўляецца іх фізічная форма, паколькі зараз вучні многа часу праводзяць за камп'ютарамі або з мабільнікамі ў руках. Удзельнікі «Перапёлкі» вучацца народным танцам, знаёмяцца з нашымі традыцыямі і гісторыяй, — заявіла мастацкі кіраўнік танцавальнага калектыву Юсцінія Бірыцкая.

Прэзентацыя танцаў на сцэне Гайнаўскага дома культуры перапляталася з паведамленнямі аб гісторыі калектыву. «Перапёлка» была заснавана ў Гайнаўскім доме культуры ў 1993 годзе. Першым мастацкім кіраўніком калектыву была Анна Баран. Удала займалася яна з калектывам да 2006 года, затым год часу з танцорамі працавала Бажэна Жыжа. З 2007 года дзейнасцю «Перапёлкі» паспяхова кіруе яго ранейшая танцорка Юсцінія Бірыцкая, а падчас водпуску замяшчала яе Вольга Вілюк. Калектыў народнага танца «Перапёлка» часта выступае ў Гайнаўскім доме культуры і гарадскім амфітэатры ў Гайнаўцы, а таксама прыдае бляску імпрэзам у Гайнаўскім павеце. Прымаў ён удзел у шматлікіх фальклорных фестывалях, конкурсах, турнірах, аглядах і канцэртах у розных гарадах Польшчы і замежжа, адкуль вярталіся з узнагародамі. Танцоры «Перапёлкі» асабліва захапілі публіку падчас «Вясельнай бяседы», якую летам у мінулым арганізаваў у амфітэатры Гайнаўскі дом культуры ў супрацы з калектывамі з Пружан. Падчас «Купалінкі» ў Ляневе публіка бурна апладзіравала танцорам ГДК, якія выступілі там на траве. «Перапёлка» часта выступала на беларускіх фэстах. Раней танцавальны калектыў з Гайнаўкі супрацоўнічаў з калектывам «Спадчына» з Пружан. З гэтага часу «Перапёлка» стала часцей выязджаць у Беларусь. Танцоры «Перапёлкі» больш за трыццаць разоў выступалі па-за межамі Польшчы — у Беларусі, Расіі, Эстоніі, Латвіі, Літве, Італіі, Швецыі і Балгарыі.

— Танец — маё хобі. Наша мастацкая кіраўнік Юсцінія Бірыцкая стварае ў калектыве сямейную атмасферу, таму хочацца прыходзіць на рэпетыцыі. Мы ў калектыве пасябравалі. Прыходзілі 2 гадзіны перад рэпетыцыяй, каб супольна пасядзець, пагутарыць і пасля танцаў заставаліся паразмаўляць. Асабліва зжыліся мы з сабой падчас выездаў на выступы, асабліва ў замежжа. Я займаюся ў «Перапёлцы» з 2011 года. У нашай групе танцуюць таксама Наталля Дзюбанос, Тамаш Дружба, Аня Чыквін, Моніка Сакалоўская, Бартак Плева. Мы многа

працяг ☞ 10



Юсцінія Бірыцкая (стаіць паміж танцорамі «Перапёлкі»)





# Дзесяць год пасля...

Прайшло дзесяць год пасля расійска-грузінскага ваеннага канфлікту. Някепская кропка адліку, каб паглядзець і прааналізаваць, што памянялася з таго часу ў Грузіі, Расіі, ды ўвогуле ў сусветнай палітыцы. Расія па-ранейшаму называе тую вайсковую аперацыю „прымусам Грузіі да міру" (чымчым, а палітычнай рыторыкай расійскія дыпламаты аваладалі дасканала), Грузія называе менш паэтычна, проста вайной, або анексіяй.

За дзесяць год у Грузіі змянілася палітычнае кіраўніцтва. Той яе прэзідэнт, Міхаіл Саакашвілі, паспеў за гэты час пабываць і ўкраінскім палітыкам, і апальным палітыкам як у сябе на радзіме так і на ўсё той жа Украіне, грамадзянства якой яму падарыў сам Пётр Парашэнка і сам жа і адабраў, і кім толькі ён не пабываў пасля гэтага. У Расіі ж тагачасны прэзідэнт Дзмітры Мядзведзеў стаў прэм'ерам, а прэм'ер Уладзімір Пуцін прэзідэнтам.

На першы погляд у расійскага тэндэма жыццё значна больш сумнае і непрыкметнае чым у іх грузінскага супраціўніка дзесяцігадовай даўніны, але ж не будзем спяшацца з высновамі. І для расійскіх палітыкаў гэтыя дзесяць год не прайшлі выключна ў глыбокіх роздумах пра тое, хто быў праў, а хто не ў той вайне, ды філасофскім асэнсаванні сваіх дасягненняў або памылак. Расія за гэты час павялічыла сваю тэрыторыю за кошт Крыма, уратавала начальніка Сірыі Башара Хафеза аль-Асада і замацавалася на яго тэрыторыі вайсковымі базамі, была выключаная з васьмёркі галоўных эканомік свету, стала галоўным суб'ектам многіх міжнародных скандалаў, узяла пад кантроль самаабвешчаныя рэспублікі на ўсходзе Украіны і нарэшце дасягнула таго, што яе прызналі ўсё ж такі магутнай ядзернай дзяржавай, якая, аказваецца, можа папсаваць жыццё ўсім тым, каму ўдалося тое жыццё зрабіць больш-менш спакойным. Калі захоча, канешне. І, здаецца, і хоча, і можа. Ну што ж, таксама весела.

Еўрасаюз за гэты час таксама добра „павесяліўся" і павесяліў іншых. Яго пакінула Вялікабрытанія. Узамен прыйшла вялікая колькасць мігрантаў з цёплых краёў, у тым ліку і з Сірыі. Чаму сірыйцы ўцякаюць ад вайны ў Еўропу, а не ў Расію, якая ратуе іх кіраўніка, тлумачыць не трэба. І так усё ясна. Чаму Еўропа не ставіць пра гэта пытанне перад Расіяй, застаецца загадкай. Але калі першапачатковая рыторыка еўрапейскіх палітыкаў пра звычайныя чалавечыя памкненні дапамагчы ўцекачам перарасла ў словазлучэнне „эміграцыйны крызіс", адчуванне весялосці не павялічылася. І зараз у еўрапейцаў новая ўнутраная забава, як і куды, па якіх краінах старэнькай Еўропы рассяліць гэтых людзей, як быццам гэтыя людзі ў іх пра тое пытаюцца.

Што тычыцца Грузіі і Крыма ды вайны на ўсходзе Украіны, то тут Еўрасаюз выказаўся на дзіва аднназначна. І гэта больш за ўсё і напалохала. Бо гаварыць аднназначна ў сённяшняй палітыцы практычна ніхто ўжо не ўмее. А тут выказаліся. Ды хто? Сама нязменная ўжо чатыры тэрміны нямецкая канцлер самай вялікай эканомікі Еўрасаюза Ангела Меркель. Таму адразу пачалі грызці сумненні і нейкія галасы нашэптваць на вуха пытанне: „А дзе тут падвох?". Хутка адказ выплыў сам па сабе. Як кажа старая мудрасць, калі не зразумела пра што размова, то размова пра грошы. Галоўная эканоміка Еўрасаюза Германія выказала сваё аднназначнае абурэнне дзеяннямі Расіі, нават падтрымала нейкія эканамічныя санкцыі, нават некалькі расійскіх дыпламатаў выгнала і, не спыняючы набраных абаротаў, хіба каб не зніжаць тэмпу, пачала ўкладваць разам з той Расіяй газавыя трубы найвялікшага эканамічнага праекта „Паўночны струмень-2". Балазе рабочых рук для абслугоўвання гэтага праекта спадарыня канцлер у Еўропу запрасіла дастаткова.

У Амерыцы таксама сумаваць не прыходзіцца. Ліберальная прэса вінаваціць свайго прэзідэнта ў тым, што ён выконвае свае перадвыбарныя абяцанні! І пра разрыў дамовы з Іранам, і пра спробу пабудаваць сцяну, і пра... Якая розніца пра што? Гэта перадвыбарчыя абяцанні! Як могуць СМІ... Дарэчы, пра прэсу! У Беларусі чарговы раз затрымання журналістаў... Затрыманні носяць маштабны характар. Скандал сусветнага значэння... Журналісты Беларусі чакаюць рэакцыі свету. Але зыходзячы з вышэйнапісанага можна скласці дакладны прагноз далейшых падзей. У Еўропе нейкі час паабураюцца...

**Віктар САЗОНАЎ**



# Хто дурань?

Смецце ўсюды. Над адной з самых дзікіх рэк Польшчы, Нарвай, усё менш і менш прасторы, усё больш і больш людзей, усё больш і больш смецця. Выехалі ў выходныя дні полчышчы сасмяглых па ваду і ахалоду. На наступным тыдні вернуцца разам са спехам склікаными суседзямі, сваякамі. Гэта ўцёкі на Прыроду. Натоўп, яшчэ больш, пакіне пасля сябе кучы смецця, рубцы ад спаленых кастроў, агаленыя дрэвы, параз'езджаныя аўтамабілямі лугі, пластыкавыя бутэлькі, пакеты, бітае шкло. Смецце ўсюды. Нават у Пушчы, у яе глушы, хоць за шчыльным частаколам забарон на чырвоных знаках, якія яшчэ пры міністры Шышцы забаранялі доступу да лесу, нядаўна цішком зменены на папярэджанні пра пагрозу жыццю і здароўю з-за падаючых дрэў. Але гэтыя табліцы — таксама смецце. Вельмі дарагое смецце, лічанае на сотні і тысячы. Хтосьці заказаў іх, хтосьці заплаціў. Хтосьці загадае замяніць іх, а хтосьці зноў заплаціць. І гэтак далей. Усё больш і больш смецця. Можна яго спачатку не заўважыць, але дастаткова зірнуць на сетку сезонных або часовых міграцый людзей з допускам 1 метра, каб знайсці самыя вялікія канцэнтрацыі смецця. На берагах вадаёмаў і лясоў — у летні час. У гарах — і зімой, і летам. У іншых месяцах, у гарадах і сёлах — у любую пару года. Але жыўшы ў горадзе чалавек не ўсядзіць на адным месцы і пхаецца ў вёску. З вёскі ў горад. З непатрэбным інтарэсам, з ніштожнай справай, для руху і змены краявіду. Вытоптваючы на шляху лясы, лугі, берагі азёр і рэк, чалавек цяперашні час разглядае як імгненны прыпынак, як кемпінг. Рухаючыся ўперад, нядбайна пакідае рэшткі, смецце, разбурэнне, залішні ў падарожжы багаж. Не пакідае ззаду месца, але прайшоўшы час, які не мае значэння. Тым не менш імкнецца да нявызначанай будучыні, разглядаючы яе як экалагічна чысты раён. Небяспечную, ахопліваючую атавістычным страхам невядомую зямлю, таму што нічыю. І толькі гэтым тлумачыць сваю неабгрунтаваную пагарду да стэрыльнай мінуласці — толькі тым, што герачна мусіць заглянуць у будучыню.

Людзі — непаседлівыя істоты, але не толькі ў сэнсе прасторы. З таго часу, калі чалавечы род эміграваў з Афрыкі, калыскі чалавека, працягвае імчацца. Гэта ў яго генетычным кодзе. Выклік першаснага валацужніцтва. Гэта па сутнасці яго бег у будучыню. Таму што мінулае незваротна страчана. Калыска чалавецтва, Эдэм, Рай, першапачаткова быў вольны ад забарон. Першую забарону, у адпаведнасці з біблейскім міфам, невядома чаму Бог прызначыў людзям, забараняючы спажываць ім плады з дрэва добрых і дрэнных ведаў. Вынікам парушэння забароны было канчатковае выгнанне з Раю, з калыскі шчаслівага мінулага. На жаль, штораз больш аддаляемся ад яго — мы, іхнія нашчадкі — тым больш ставім забароны для сябе. Забарон больш і больш дарагіх у сацыяльным, культурным і цывілізацыйным плане. Усё больш і больш дурных забарон, звальняючых нас ад волі. Аднак ці то самі па сабе не адмаўляемся ад яе? Вось, на цэнтральным рыначку Гайнаўкі прадаецца дзераза — Lycopodium. Хаця знаходзіцца яна пад строгай аховай, прадаецца ў пучках, як паспалітая рэдзька. Усім вядома аб тым, што расліна знікае, што мы павінны абараняць яе. Мы ўсе прызнаем, што забарона на ўзяцце дзеразы з яе натуральнага прытулку з'яўляецца правільнай. Як зубровай травы, буквіцы. Але хто звяртае ўвагу на забароны? Лічыцца бессэнсоўнай прагнасць «цяпер». Разумнае «пасля» занадта позняе, каб выратаваць што-небудзь... Так што, мабыць, прыйшоў час паставіць знакі, якія забараняюць доступ людзей... на гайнаўскі базар? Ідэя дурная, але ў адпаведнасці з канонам «забароннага» аўтарызму, які ўчапляўся як чума да чалавецтва. Як чума. Як чорная воспа. Яшчэ крышку, і стане распаўсюджвацца паляванне на чорнага ката — як у сярэдневяковї падчас вялікай чумы — вінаватага ў апакаліптычным пажары. Адзінае пытанне, да гэтага часу без адказу: хто будзе тым чорным катом? Інтэлігенцыя званая элітай? Атэісты? Нацменшасці? Прыхільнікі права і справядлівасці без Права і справядлівасці? Дурні? Толькі хто той дурань?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Мары і памежныя грошы

Калі тыдзень таму назад пісаў я пра нервы і слёзы пры перасяканні мяжы, то перад вачыма паўсталі ўспаміны больш чым дваццацігадовай даўнасці аб перасяканні польска-беларускай граніцы і нядаўнія рэмінісцэнцыі з польска-ўкраінскага кардону. Як не парадаксальна, але мяжа з'яўляецца самым чулым барометрам пошукаў ніш на эканамічных рынках суседніх краін. Таму здаецца мне, што кантрабандысты яшчэ вельмі доўга не знікнуць з памежнага краявіду гэтай часткі Еўропы. Гэта яны сваім чуллівым носам умеласці зарабляць грошы патрапяць беспамылкова раскусіць і патрэбы спажыўцоў, і розніцы ў курсах на падобныя тавары вытворчасці краін-суседак. Ну і другі від тавараў, на якіх можна зарабіць. Гэта тавары абмежаваныя ў колькасці ці тары ўвозу, за якія не трэба плаціць мытнай пошліны. Зразумела, тут ідзе поўнае азартнае спаборніцтва паміж кантрабандыстамі і мытнікамі ў знаходжанні прыдуманых для бязмежнага чалавечага ўяўлення розных сістэм перавозу, ці найбольш адмысловых схованак.

Вядома, аднак, што найбольшую колькасць перасякаючых мяжу складаюць звычайныя людзі, якія за свае цяжка зробленыя грошы хочуць ашчадзіць на розніцы цэн на прадуктовыя і прамысловыя тавары. Большая частка такіх пакупак размяркоўваецца сярод блізкага і далейшага сямейнага кола, а надбаўка прадаецца. Такім чынам вяртаецца кошт падарожжа, а яшчэ часам можна і падзарабіць для хатняга бюджэту. Кожны грош тут патрэбны, асабліва пры цяперашнім узроўні зарплат у беларускай ці ўкраінскай рэальнасці. Калі чытаю і слухаю афіцыйныя паведамленні пра сярэднестатыстычны заробак у гэтых краінах, то заліваюе мяне злосць, бо размаўляючы з людзьмі добра ведаю, за які мізэр прыходзіцца ім працаваць. Каб выжыць, трэба ім накруціцца. На мае пытанні пра велічыню заробкаў махаюць толькі рукою і найчасцей адказваюць: усё гэта дзяржаўная хлусня і ху...я. Вось адзін прыклад з апошняй паездкі на Украіну. Паводле ўкраінскай дзяржаўнай службы статыстыкі сярэдні заробак у краіне гэта прыблізна сем тысяч грывень, што ў пералічэнні дае прыблізна 960 злотых. У правінцыйным гарадку маладая афіцыянтка, якая працуе амаль без выхадных, выконваючы пры тым абавязкі і прыбіральшчыцы, і кухоннай памочніцы зарабляе... ледзь семдзесят долараў, значыць толькі пад трыста злотых. Ну і выжыві за такія грошы, ці пракармі сям'ю, калі не маеш. Таму міграцыя з Украіны мае ўжо, на жаль, такі велізарны размер.

У беларускім прэзідэнцка-дзяржаўным варыянце здзяйсненнем мараў мае быць заробак велічынёю ў пяцьсот долараў. І пра тое слухаем не першы дзясятак гадоў. Зараз перад парламенцкімі і прэзідэнцкімі выбарамі 2019 і 2020 гадоў ізноў з паўтараемым успыхам рэпрэсій да незалежных сродкаў масавай інфармацыі, згодна з традыцыяй улады загаварылі пра гэтыя міфічныя пяцьсот баксаў. Маніць і прываблівацъ ізноў такімі абяцаннямі гэта тое ж самае, што абяцаць усім здаровае і шчаслівае жыццё. Нездарма абсурднасць такіх абяцанняў і пастаноў дачакалася нават адмысловай песні беларускага гурта, які спявае, што «беларуская мара — пяцьсот сем даляраў». Не памятаю ўжо колькі гадоў слухаю я песні гэтага гурта, але напэўна значна даўжэй слухаю ўжо класічную, адвечную песню беларускіх улад, што вось, вось возьме і здзейсніць гэтую мару-абяцанне. Аднак пакуль у беларускай і ўкраінскай эканоміцы накont зарплат улада хоча надалей дзейнічаць паводле прымаўкі «спадзяваўся дзед на мёд, то лёг спаць не еўшы». На шчасце большасць грамадства ўжо даўно зразумела, што калі сам не абаронішся і не закруцішся, то ў гэтак званых сваіх сацыяльна абароненых дзяржавах прыйдзецца кожнаму апынуцца ў незайздросным становішчы — у эканамічнай і сацыяльнай галечы. Адтуль ужо толькі адзін крок у бок адчаю і прымушанага бамжавання. Сацыяльная справядлівасць узаконеная толькі для дзяржаўнай вертыкалі, алігархічна-мафійных кампаній. Звычайнаму чалавеку дастаецца ад гэтага толькі дуля пад нос. І гэта кашмар.

**Яўген ВАПА**

# ШТРАФ за падляшскія абрады

Тэкст і фота Евы СЦЕПАНЮК




**— Ці я каму перакасіў, ці пераараў! — хвалюецца Мірон С. — Ці ж гэта такое злачынства, каб за яго па судах цягалі?**

А ўсё з-за таго, што наглядзеўся на калярытную паказуху.

Мірон С. шкадуе, што паехаў у Тапаркі на паказ абраду падляшскага жніва. Яго хвалявала, што дзеля забавы і здымкаў будуць касіць няспелае зялёнае жыта. Ніхто з сапраўдных земляробаў не ішоў касіць. Усе чакалі, ажно даспее. У ліпені, калі пасля працяглай засухі пайшлі дажджы, частка збожжа нечакана пайшла ў «одмалодзь». З-за гэтай анамаліі жніво адтэрмінавалі на два-тры тыдні. Людзі разумелі, што няма выхаду. Ды што рабіць з недаспела-пераспелага зерня? Нават на самагонку не перагоніш!

Яшчэ больш за прыродныя анамаліі Мірона С. хвалявала яхіднасць суседзяў. Калісь у жніўны сезон поспех заключаўся ў аб'яднанні грамады. Людзі працавалі талакой, каб тэрмінова, пры добрым надвор'і справіцца з работай. Кожны дапамагаў як мог, нёс палёгку і падтрымку суседу, сваяку....

— А зараз прасі, не прасі, і так не дапросішся, — наракае Мірон С. — За ніякія грошы не пойдуць. Няма дурняў! У вёсцы ўсе прыкідваюцца занятымі. Ды хай сабе пілі б каву і глядзелі тэлесерыялы. Дык — не! Ім трэба крыві, насмешак...

Апошняя заўвага тычыцца суседа з-за плота, якому з-за інтрыг і небывалай мабільнасці ў наваколлі прышпілілі мянушку Дзядзька Дрон. Карацей кажучы, ён прысутны на кожным фэсце, кірмашы, гасцёўні, фестывалі...

* * *

— Мой непаседлівы сусед, — цягне свой крымінальны аповед Мірон С., — ад гадоў марочыць мазгі, каб я ўжо не араў, не касіў, не сеяў. Каб пайшоў на пенсію і заняўся гандлем. Вось ён прывязе бак саляркі з Беларусі, прадасць даверaным кліентам з прыбыткам і рады. Ніякія засухі і ўраганы яго не хвалююць. Кожную нядзелю апране вышыванку ды ляціць на танцы і спевы. Нішто без яго не абыдзецца. І гэтага мала, — уздыхае мой субяседнік. — Куды не паедзе, там мяне кляйміўе і знеслаўляе. Распавядае, быццам у мяне нелегальная гадоўля свіней і ўсё такое. Тры разы кантроль налятала. Праўда, у апошні раз кантралёры знерваваліся, вырашылі адпомсціць за фальшывы данос. Ды ўпаролі яму такі штраф, што о-го-го! (Калі Мірон С. успамінае апошняе здарэнне, рагоча, ажно трасецца яго пузаты жывот).

— І ведаеце за што? За мак!

— Як за мак?

— Нармальна. У гэты дзень, калі наехала кантроль, у яго на градках зацвіў максамасей. Ён непрыкметна вырас пасля дажджоў і як на злосць зацвіў у дзень кантролю. Штраф і пратакол гатовы. Да таго з-за нелегальнай гадоўлі. Лепш чым матка прырода не прыдумаеш!

Праўда, сусед праігнараваў анамаліі ў прыродзе і ў даносе абвінаваціў Мірана С. Тады ўспыхнула паміж імі, як кажа мой суразмоўца, «міравая» вайна.

— Ён паабяцаў, што мяне знішчыць, — успамінае з крывой усмешкай Мірон С., — знойдзе на мяне такі параграф, што ўсю гаспадарку прыйдзецца на суды прадаваць...

— А дзе людзей набярэш! — адпаліў тады мой субяседнік.

Мірону С. якраз прыгадалася неахвота аднавяскоўцаў, каб у чым-колечы дапамагчы ці хоць бы падтрымаць пустой абяцанкай. Ён ведаў што ў вёсцы ніхто не падтрымае іх канфлікт, нават дзеля плётак і дурной разрыўкі. Чаму?

— Бо мы сям'я, — прызнаецца з сорамам Мірон С. — Людзі кажуць: падзяруцца і паладзяцца.

Канфлікт ужо ўдарыў па кішэні. Зараз, у разгар жніва, Мірон С. вымушаны ехаць за салярқай у чужую вёску. А там вышэйшая цана. І ўсе як на злосць пытаюць пра Дзязьку Дрона. Ці выплаціць ён штраф, ці пойдзе за мак у турму?

* * *

Мірон С. не ведае як пагасіць пажар, які ўспыхвае з-за дзівосных інтрыг і кормімца, з'ядаючы свой уласны хвост.

— Відаць нехта чары накінуў, — мяркуе ён.

Вось яго прыгода са жніўнымі абрадамі, таксама з роду тых дзівосных непрадказаных. І гэта ў момант, калі здавалася, што ўсё ідзе да ўз'яднання і міру. З'ездзіць на абрад жніва ў Тапаркі намовіў калега, з якім Мірон С. ляжаў тры дні ў шпіталі. Апрача болю і старакавалерства іх аб'ядналі святочныя рытуалы. Заўсёды на Каляды і Вялікдзень яны жадалі сабе па тэлефоне «szczęścia u kobiet i worek pieniędzy...».

А зараз той сябра пазваніў і сказаў:

— Прыязджай на жніво, тэлевізія будзе!

Мірон С. як агню абмінаў падобныя святы, найперш па прычыне свайго суседа. Бо дзе не крунешся — там ён. Каля спявачак трэцца, нешта ім трэліць, нашэптвае...Няйначай, яго знеслаўляе, абмаўляе! Ды тут не было выхаду. Як жа адмовіць калегу. Паехаў дзеля кампаніі, няйначай. Ён не любіў глядзець на жніво са спевамі і вышыванкамі. Сярод «акцёраў» абраду ён нават прыкмеціў кантралёраў, якія прыязджалі да яго віртуальных свіней. Яшчэ больш хвалявала яго неахайнае маханне касой гарадскіх акцёраў, за якімі, быццам лес, вырастала шчарбатая пожня. Магчыма, публіка ў большасці гарадская, не прыкмячала ўжо такіх дэталей. Нават калі ў час малацьбы разляцеўся цэп, усе білі брава. Але тады Мірон С. не звяртаў ужо ўвагі на такія дробязі. Ён некалькі разоў папаў у аб'ектыў рэгіянальнага тэлебачання, якое здымала сюжэт для перадачы. Ды каб не псаваць добрай гульні арганізатарам, ён бязвольна паддаўся настрою шчасця і радасці. І нават калі падышоў да яго тэлежурналіст спытаць пра ўражанні, ён з энтузіязмам заявіў:

— Więcej takich imprez!

Яшчэ больш усцешыў яго Дзядзька Дрон. Ён — стары тусоўшчык і бывалы чалавек — падышоў да Мірона С. і сказаў:

— Хадзі са мной! З адной прыгажуняй цябе пазнаёмлю!

* * *

— Тады здавалася, — успамінае з той жа крывой усмешкай Мірон С., — мы прымірыліся, адчулі сябе як родныя, тобок траюрадныя браты. Відаць, я занадта наглядзеўся на каляровы фальклор, — думае ўголас мой субяседнік. — Паверыў, што так прыгожа і згодна можа выглядаць касьба і малацьба. Што яна аб'ядноўвае людзей і лагодзіць абычаі. І ўсё так прыгожа — без мазалёў, поту і чортавага вяселля. Калі ўспыхваў дзікі вецер, раскідаў снапы і мог пакруціць косці касцам і жнеям. Усе баяліся таго «вяселля», як снапы падалі на зямлю...

Яшчэ доўга, пасля прыезду з Тапаркоў, Мірон С. не мог забыцца пра цудоўнае свята. Ды каб прадоўжыць узнёслы настрой, ён зачарпнуў вядро халоднай вады і пайшоў на панадворак Дзядзькі Дрона:

— Хацеў яму па-людску і па-братэрску падзякаваць! Пакланіцца за магчымасць знаёмства з чароўнай спявачкай. Яна, хоць гарадская, паабяцала прыехаць дапамагаць у жніво...

Карацей, усё, што адбылося далей, можна палічыць працягам жніўнай традыцыі. Мірон С. выклікаў з хаты сваяка на панадворак і шчодра шугануў на яго з вядра. Як калісь, у час дажынак. Кропля ў кроплю з традыцыяй, у знак пашаны і добрай варажбы. А Дзядзька Дрон, замест пачаставаць гарэлкай,ззелянеў ад злосці і пачаў крычаць на цэлую аколіцу:

— Ратуйце! Топяць! Мардуюць! Зневажаюць!

Далей... вядома... усё паўтарылася. Прымчала паліцыя ажно з павета. Праўда, калі малодшы аспірант пісаў пратакол, ён ледзь стрымліваўся ад смеху. Але, каб захаваць фасон і павагу, ён павучыў абвінавачанага на сур'ёзнай ноце:

— Do celi może nie trafi, — праінфармаваў тым жа службовым тонам, — ale kolegium murowane?

Мірон С. глядзеў шакіраваны на ахоўніка парадку і не мог зразумець, што адбываецца з людзьмі. Здавалася, той малады паліцыянт, які зараз спісваў сур'ёзны пратакол і палохаў штрафам, таксама гуляў на «Свяце жніва» і захапляўся падляшскімі абрадамі.

# Чыгунка Бельск — Гайнаўка раней і зараз

Далёка прасунуліся працы па рэактывацыі чыгуначнай лініі Леўкі — Гайнаўка. Мадэрнізуецца насып, развозяцца жвір і шчэбень на некаторыя адрэзкі, перабудоўваюцца малыя мысткі і мост на рацэ Арлянка каля Міклашоў. Развозяцца і складваюцца 120-метровыя рэйкі. Будуецца перон прыпынку Арлянка (якога мела „не быць"). Усіх прыпынкаў будзе восем: у Леўках, Міклашах, Арлянцы, Моры, Старым Беразове, Дубічах-Асочных, Хітрай і Гайнаўцы. Чыгуначнае палатно на некаторых адрэзках значна пашыранае, бо прадбачваюцца там пажарныя пад'езды. Па лініі пастаўлена некалькі сігналізацыйных кантэйнераў каля пераездаў. І найважнейшае: да канца гэтага года пуці маюць быць пакладзены.

Будзе адноўлена адзінае спалучэнне Орлі з Гайнаўкай. Зараз няма ніводнага аўтобуса з Орлі ў Гайнаўку, а калісь, пры камуне, было іх чатыры. Людзей абнаўляная чыгунка цешыць, але сем'ям, якія жывуць побач чыгуначных пуцей, загадзя папярэдзілі пра выкватараванне.

## Пачуцці пры закрыванні чыгуначнай лініі

Калі ў 1995 годзе закрылі чыгуначную лінію Бельск-Падляшскі — Гайнаўка, якою ў мінулым і я карыстаўся, не спадзяваўся я, што яна будзе калі-небудзь аднаўлена, што дачакаю такой хвіліны. Але здарылася больш — чыгуначная лінія не адбудоўваецца, але будуецца нанава; вядома, на аснове старога насыпу.

Варта прыпомніць пачуцці людзей, калі лінію закрывалі. Памятаю, што ў дзень апошняга курсіравання цягнікоў з пасажырамі размаўляў журналіст Радыё Беласток; перадача пайшла ў эфір.

Я назіраў за закрытай лініяй і пачуццямі людзей. Людзі шкадавалі, а нават злаваліся, што ўжо не будзе паяздоў. Яны тлумачылі, што гэта па віне старых драўляных шпалаў, якіх не было каму памяняць на новыя. Людзі сталі найбольш хвалявацца, калі рэйкі пачалі зарастаць і знікаць у траве і зямлі. Дзіваваліся, калі побач рэек пачалі вырастаць дрэвы, з цягам гадоў набіраючы магутнасці. Пажылыя людзі сталі сумнявацца ў рэактывацыі чыгункі. З зарастаючымі рэйкамі адыходзіла частка іхняга жыцця, іх маладыя гады...

На сесіі Гміннай рады ў 2008 годзе пытаў я павятовага паліцыянта, навошта стаўляюцца новыя папераджальныя перад цягнікамі дарожныя знакі, калі тых цягнікоў няма, каля пераезда ў Вульцы каля Орлі. І ці шафёры павінны спыняцца перад імі, калі пуць зарослы...

Шафёры не звярталі ўвагі на тыя знакі; і ніхто іх за гэта не штрафаваў. Бо было вядома, што цягнікі не курсіруюць. І цікава, як цяпер павядуць сябе вадзіцелі, прывыклыя ігнараваць прыпыненне перад тым пераездам.

## З гісторыі пабудовы чыгуначнай лініі

Чыгунку з Бельска ў Белавежу пабудавалі ў час расійскага панавання па загадзе цара. Зараз пры пабудове гэтай лініі працуюць велізарныя машыны і нямногія людзі; такіх брыгад некалькі на паасобных адрэзках. А як было ў царскі час? Пэўна былі гэта сотні ці тысячы людзей з лапатамі. А найбольш працы выканалі коні запрэжаныя ў жалезнякі, якімі давозілі і вывозілі зямлю. Коні адыгралі велізарную ролю ў пабудове чыгуначных ліній, дарог, а таксама ў развіцці сельскай гаспадаркі, гарадоў і прамысловасці. Менавіта і зараз моц машын вызначаецца адзінкамі, якія атрымалі назву механічных коней.



Папераджальны знак перад чыгуначным пераездам каля Вулькі, пастаўлены ў 2008 годзе



Фота Аляксандра Вярбіцкага

Новы пуць каля Парцава

З кніжкі Пятра Байко „Po śladach odchodzącej Białowieży" можам даведацца, што чыгуначнай лініяй з Бельска ў сярэдзіну Белавежскай пушчы ў 1897 годзе падарожнічаў цар Мікалай II. Быў гэта яго другі візіт у Белавежу, а першы чыгункай; чарговыя візіты былі ў жніўні 1900 і 1903 года ды ў верасні 1912 і чэрвені 1915 года. Цар, каб не падарожнічаць гужавым транспартам у белавежскі палац, рашыў пра пракладку чыгункі ў самую Белавежу...

## Перашыванне лініі

Лінію паміж Бельскам і Белавежай шмат разоў перашывалі. Пабудавалі іх шырокакалейнымі, пазней, у 1920-х гадах, перавялі іх на нармальную каляю, у 1939 годзе — на шырокую, у 1941 годзе на нармальную, у 1944 годзе зноў на шырокую, а з 1945 года, пасля падпарадкавання чыгункі Польшчы, зноў на нармальную каляю. Я калісьці на адрэзку пуці ў Гайнаўку пабачыў пазначаныя на рэйках гады 1898, 1915 — значыць, была гэта дата іх вытворчасці. Будынак прыпынку Арлянка, з чырвонай цэглы, паводле надпісу на адным з яго вуглоў — 1915 — напэўна быў у той год пабудаваны, хаця пачыналася ўжо І сусветная вайна.

## З гісторыі чыгуначных масткоў каля Орлі

На адрэзку чыгуначнай лініі паміж Леўкамі і Гайнаўкай ёсць некалькі малых масткоў ды мост на рацэ Арлянцы. Усе яны зараз грунтоўна мадэрнізуюцца.

Малы сталёвы масток на ручайку Шыдлоўка каля Вулькі пабудаваны быў, паводле выбітага надпісу, у 1872 годзе. У чэрвені 2018 года, у час абнаўлення лініі яго дэмантавалі і вывезлі, разбурылі таксама бетон; стане там новы мост.

Сталёва-бетонны мост на рацэ Арлянцы, побач лесу Габрысікі, як я распытваў старэйшых людзей, стаіць у крыху іншым месцы, чым першапачаткова. Паводле расказу Сашы Орды з Міклашоў, недзе каля ста гадоў таму здарылася, што высокі ўзровень вады ў Арлянцы пашкодзіў чыгуначны мост. Пабачыў гэта жыхар недалёкага хутара Рубашэўскі і на сабе вядомы лад спыніў перад мостам над'язджаючы поезд. У падзяцы за прадухіленне трагедыі чыгуначныя ўлады далі Рубашэўскаму драўніну на цэлы дом. Тадышні мост быў сітуаваны на прамой лініі. Пасля гэтай падзеі новы мост пабудавалі крыху збоку ад папярэдняга і так ён стаіць да сёння. Астаткі ад яго, палі і нейкія сталёвыя элементы асталіся ў рацэ і ў час мелкаводдзя яны відочныя. На гэты металалом не спакушаюцца, аднак, ахвотныя, бо, як самі прызнаюцца, гэта можа іх дорага каштаваць.

Зараз, у час абнаўлення лініі, гэты мост часткова разабраны, асталіся толькі два двухтаўроўнікі. Што будзе далей, пакуль невядома, а людзі гавораць рознае, напрыклад, што можа будзе новы ў прамой лініі. Па-мойму, астанецца так, як было дагэтуль. Рабочыя, што пракладаюць новую лінію (гэта ўкраінцы) дацягваюць трактарамі да мастка 120-метровыя рэйкі, перапраўляюць цераз раку і палявой дарогай побач пуцей цягнуць далей аж да прыпынку Мора.

## Чыгунка была неабходная пошце

Як сам памятаю, недзе ў палове 1960-х гадоў менавіта дзякуючы чыгуначнай лініі (хаця прыпынак Арлянка аддалены 3 кіламетры ад Орлі) магла дзейнічаць арлянская пошта. Карэспандэнцыю і пасылкі з Орлі вечарам і ў Орлю раніцай вазілі коннай фурманкай на поезд і з поезда, што спыняўся на прыпынку Арлянка. Каля пяці гадоў такую працу выконваў жыхар Орлі Міхалай Цэтра, часам заступаў яго ягоны сын Люша (Ілья). Памятаю, што я ў дзіцячы час разам з калегам часам карыстаўся ветлівасцю вазака, які падвозіў мяне фурманкай туды і назад; нам было гэта вельмі цікава.

## Чыгункай даязджалі вучні і рабочыя

У 1973-1976 гадах вучыўся я ў Гайнаўцы і вельмі часта (асабліва раніцай) карыстаўся чыгункай. У мінулым многія ездзілі па ліні Бельск — Гайнаўка. У 1970-х гадах на прыпынку Арлянка ў поезд сядала некалькі дзясяткаў асоб, галоўным чынам вучняў, але і рабочых з Орлі, Міклашоў, Кашалёў, Крывятыч, Мора, Шчытоў і нават Галадоў.

Найцяжэй было даязджаць зімою, калі задувала снегам, аднак людзі выбіралі падарожжа поездам, бо зімою, інакш чым аўтобус, поезд быў надзейны.

Бывала, выйдзеш рана зімою ў Арлянку, а ноччу дарогу засыпала снегам. І хвалюешся, што не паспееш на поезд. Але здараўся і нечаканы санны падвоз — гэта спадар Павел Здановіч, якога называлі Пашкам, падвозіў сваіх двух сыноў, якія працавалі на перагрузачнай станцыі ў Семяноўцы.

А калі настала «зіма стагоддзя», калі на шашы між Орляй і Шчытамі навеяла больш за два метры снегу. Не справіўся з ім бульдозер. У Орлі людзі сарганізаваліся для шарварку, каб расчысціць дарогу да чыгункі. Бо без чыгункі спынялася жыццё. Людзям удалося ачысціць ад снегу толькі невялікі адрэзак (пад узгорак), а далей людзі папросту прабіраліся напрасткі, цераз поле, дзе снегу было менш, бо вецер зносіў яго на шашу.

## Трагічныя падзеі

На жаль, і ў Арлянскай гміне з чыгункай звязаны сумныя падзеі, асабліва на чыгуначным пераездзе каля прыпынку Арлянка.

У 1950-х гадах, калі мясцовая кафлярня атрымала першы грузавік маркі «Star-20» прызначаны для транспарту драўляных шчэпак — апалу для выпальвання сырой кафлі. У час адной такой паездкі за матэрыялам аўтамабіль сутыкнуўся з поездам. Загінуў трагічна тады рабочы Ян Раманюк з Орлі (выступаў ён 22 ліпеня 1955 года ў Ломжы ў арлянскім калектыве мандаліністаў-спевакоў); іншыя рабочыя сур'ёзна пацярпелі.

У пачатку 1980-х гадоў на тым пераездзе дайшло да сутыкнення поезда з г.зв. «Бананзай», пасажырскім прычэпам да трактара з вучнямі — так тады давозілі дзяцей у школу. У тым выпадку трагічна згінуў хлопчык са Шчытоў, а некалькі дзяцей было сур'ёзна траўмаваных.

У канцы 1960-х гадоў на чыгуначным пераездзе каля Вулькі поезд ударыў у зад фурманкі, у выніку сур'ёзна пацярпеў (але не згінуў) фурман, жыхар Вулькі. Здарылася гэта тады, калі сам конь вёз спячага гаспадара дахаты. Фурманка зачапілася за прыдарожны стоўпік і конь затрымаўся з возам, якога зад апынуўся на пуцях.

Каля таго ж пераезду ў 1970-х гадах выпаў з едучага поезда хлапец з Крывой, які вяртаўся з войска.

Былі і іншыя чыгуначныя выпадкі ў іншых месцах і абставінах, як выпадак, калі салдат хацеў забрацца ў едучы поезд і яму абрэзала абедзве нагі. Поезд гэта магутная машына...

Як расказваў мне згаданы Саша Орда, а яму гэта расказаў старэйшы чалавек, у 1897 годзе, пры цары, калі праязджаў першы цягнік, то людзі, што былі ў полі, уцякалі. Уцякалі і гаварылі «Бо то чорт». Яны яшчэ ніколі не бачылі, каб нешта само ехала.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**



# Доктар ад Бога

**Сямён Шуберцій** амаль 60 гадоў працаваў фельчарам. Жыве ў драўлянай хатцы, якіх тут у Куранцы многа. Большасць з іх гэта былыя яўрэйскія будынкі, але Сямён упэўнены, што ягоная не належала яўрэям. Стогадовы Сямён наракае, што ўжо не можа ездзіць на ровары і крыху забывае, але надалей можа вадзіць машыну і даехаць куды трэба. Сядзіць у драўляным крэсле ў кухні. Нават тут на паліцы стаяць кніжкі, якія не месцяцца ў пакойчыку.

Куранец — сёння вёсачка ў Вілейскім раёне Мінскай вобласці. Раней было гэта мястэчка праслаўленае кірмашамі, якія праходзілі тут дзякуючы мясцовым яўрэям. У 1921 годзе былое мястэчка ўвайшло ў склад Польшчы. Старэйшыя яго жыхары ўспамінаюць, што раней тут жылі адно жыды і палякі.

— Можа калісьці было тут шмат палякаў і яўрэяў. Яўрэяў няма, а палякі сталі беларусамі, — прастуе Сямён.

У Куранцы ад яўрэяў засталася характэрная архітэктура. Асаблівая цікавыя будынкі размешчаны ўздоўж рынкавай плошчы, у цэнтры Куранца. Гэта было самае прэстыжнае месца, дзе знаходзілася шмат крамаў. У першую чаргу тыя хаты належалі яўрэям.

— Тут калісьці згарэла яўрэю хата. Страхоўка ў тагачаснай Польшчы дазволіла яму паставіць большую і яшчэ яму грошы засталіся, — успамінае Сяргей, былы турэмшчык, які ў адным з такіх дамоў жыве разам з васьмідзесяцігадовай мамай. — Пазней адна за адной гарэлі.

Пра куранецкіх яўрэяў у палове дзевятнаццатага стагоддзя вядомы журналіст з Вільні Адам Кіркор запісаў расповед мясцовых, як у час яўрэйскага свята д'ябал схапіў многа яўрэяў да вялікага мяшка і патапіў у Віліі. З гэтага часу ў Куранцы было менш махлярства і несумленных інтарэсаў. Адмоўныя рысы характару прыпісваліся менавіта яўрэям. Пасля вайны дэмаграфія Куранца моцна памянялася. Многа людзей прыехала з усходу Беларусі. І застаўся толькі адзін яўрэй.

### Паміж Талмудам і вайною

Таямнічы валун, помнік у гонар яўрэяў і Сямён. Пра гэта можна пачуць ад мінакоў на вуліцах Куранца. Хаця наогул людзі лічаць, што няма тут зараз нічога асаблівага.

— Тут пасля вайны рабілі новы парадак. Усё хацелі памяняць на свой лад. А камень ляжыць у вёсачцы ад заўсёды. Яго таксама прабавалі разарваць. Здаецца, што разарвала таго, што прабаваў, — кажа Сяргей.

У час ІІ Рэчы Паспалітай Куранец быў цэнтрам гміны Вілейскага павета Віленскага ваяводства. Зараз гэта вёска, жыхары якой здзіўляюцца кожнаму турысту. Таму экскурсіі замежнікаў да месца расстрэлу мясцовых яўрэяў для жыхароў Куранца былі нечым святочным. Нехта адведваў іх забытую вёсачку. Хадзілі па вуліцах, рабілі здымкі. А мясцовыя сядзелі на ганках былых яўрэйскіх хатак. Кожная з іх мае ганак ад вуліцы. Менавіта яўрэйская абшчына пастаралася, каб усталяваць помнік у гонар памардаваных фашыстамі 1040 яўрэяў. У невялікай кухні Сямёна на паліцы з кніжкамі стаіць здымак, на якім супольна з сябрамі з Ізраіля стаіць перад помнікам.

— Ужо будзе тры гады, як ніхто не прыехаў, — кажа Сямён.

Славуты куранецкі доктар Сямён Шуберцій нарадзіўся на Украіне ў вёсачцы Кануны. Гэта недалёка ад Ноўгарада-Валынскага. Ездзіў некалькі разоў з бацькам пад польскую граніцу ў лес па дровы. Там аднойчы наткнуліся на ўкраінскіх партызан. Абмяняліся яны толькі пару сказамі і інтэнсіўнымі позіркамі. Бацька Сямёна сеў на фуру і моўчкі ад'ехаў. Магчыма быў вымушаны кінуць сваю прафесію, называную саветамі «малой буржуазіяй». Быў вельмі веруючы, але толькі дома маліўся над Талмудам. І толькі пацíху.

— Я меў яшчэ тры сястры. Калі мне было 21 год, як фельчара забралі мяне ў Чырвоную Армію. Сястра тады была на настаўніцкіх курсах. Дома засталіся толькі бацькі і дзве сястры. Калі ў нашу вёску ўвайшлі немцы, бацькі не было дома, а дзве маладшыя сястры пайшлі ў суседняе сяло збіраць буракі. Маму забралі, сясцёр асцераглі, каб не вярталіся дамоў. Яны хаваліся па стагах, па лясах. Вайну перажылі пры партызанах. Я аб гэтым усім даведаўся ўжо пасля вайны. Доўга не ведаў, што з намі робяць. Мы ўсе пасля вайны сустрэліся. Я і тры сястры. Я не так веруючы, як бацька, але ведаю, што мы ўсе перажылі дзякуючы ягоным малітвам.

### Трыумф жыцця

«Свой жыд», «Свой Юда» — так пра Сямёна гавораць жыхары Куранца. Называюць яго доктарам ад Бога, хаця сам Сямён гэтага не любіць.

— Я не доктар! Я фельчар. А што можна было рабіць, калі было столькі людзей, а прафесіяналаў мала — лячыў! Многа чытаў, купляў кніжкі, увесь час вучыўся.

Сямёна ведалі ў цэлай ваколіцы.

— З'язджаліся да яго з усёй Беларусі. Ён і роды адбіраў, а калі прыехаў да яго мужчына з парэзаным пальцам — шыў. Усіх прымаў, хто патрабаваў. Вілейка, Маладзечна, Мядзел — стуль нават да яго ездзілі, — гаворыць ягоны сусед Сяргей.

— У мяне характар такі. Хадзіў я нават начамі па просьбах. Нікому не адмовіў. Я працаваў у Куранцы і яшчэ даязджаў у Багданава. Прымаў дома. Аднойчы прыехала да мяне жанчына з маленькім дзіцём. Упала ў роспач. Было відаць, што дзіця мае эпілепсію. Я зрабіў, што мог. Прапісаў лекі. Пазней аказалася, што дзіця здаровае і з таго часу пачалі да мяне прывозіць хворых на эпілепсію. Скуль толькі не прыязджалі!

Сямён штодзень не чытае Талмуду, не моліцца, не бывае ў сінагогах, але на Хануку звоніць да сябра з блізкага горада з віншаваннямі.

Нямнога Сямён гаворыць пра вайну. Тое, што зараз можна пабачыць нават у невялікіх гарадах Беларусі, гэта вінтоўкі ў руках салдат-пераможцаў, карабіны паднятыя ўверх у доказ перамогі, вялікія танкі на пастаментах ці нават ракеты, якія нібыта зараз падарвуцца да лёту. Гэтыя сімвалы надаюць вобразам вайны магутнасці. Некаторых напэўна гэта падштурхоўвае да трыумфальнай фантазіі. Але не Сямёна. Нягледзячы на тое, што сам ваяваў у радах Чырвонай Арміі, не чуваць у яго расказах эйфарыі. Ён здаецца гаварыць, што кожны трыумф мае таго, над кім ты трыумфуеш, і само ўяўленне аб перамозе не можа існаваць без цэню. Сямён мае ў памяці малюнкі растаптаных.

— Часта ў мяне пытаюцца: «Што рабіць, каб так доўга жыць?». У маёй сям'і цёця таксама жыла больш за сто гадоў, — смяецца Сямён. — Калі сустракаю людзей на вуліцы, яны жадаюць мне здароўя. Таго выратаваў, другога вылечыў — яны гэта помняць і мне жадаюць доўгіх гадоў. Можа дзякуючы таму яшчэ жыву.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**







Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Макаткі — скарб нашых продкаў!







Дам'ян Дмітрук

Макаткі — дэкаратыўныя тканіны. Нашы продкі ўпрыгожвалі імі сцены хатак. Умелыя рукі дзяўчат вышывалі на саматканым палатне ўсё тое, што бачылі навокал: галубоў, буслоў, ластавак, васількі, ружы, ірысы, бэз, смаліносы... У наваколлі Нараўкі ахвотна вышывалі пушчанскую звярыну — сарнаў, аленяў, зайцоў, а нават ласёў і зуброў. Людзі хацелі ў хаце мець пад рукой вобразы роднай прыроды. Рознаколерныя макаткі выглядалі як жывыя. Яны сагравалі душу ў манатонныя шэрыя лістападаўскія і марозныя студзеньскія дні.

Макаткі можна падзяліць на некалькі груп:

— макаткі з кветкамі,

— макаткі з птушкамі і звярынай,

— макаткі з краявідам.

Я лічу, што трэба нам захоўваць тое, што пакінулі нам продкі.

* *Артыкул узнік пасля творчай сустрэчы са спадарынямі Касяй Бяляўскай і Нэляй Харкевіч з Нараўчанскага дома культуры, апякункамі праекта «Зачараваны свет макатак».*

***Дам'ян Дмітрук,***
«Белы лес», Школа ў Орлі

# Дранікі Магды!



Маладую бульбу сцерці, найлепш на ручной, дробнай тарцы.

На адзін кілаграм бульбы трэба 2 яйкі. Іх дадаем да сцертай бульбы, таксама дробку солі, чорны перац, любісту, маяран. Дабавіць 2 лыжкі мукі і замяшаць усё разам.

Дранікі кладзем лыжкай на разагрэтую патэльню. Смажым, пакуль круглячкі набяруць залацісты колер з двух бакоў. Найлепш спажываць са смятанай або соўсам.

Смачна есці!

**Магда Люнда,**
***«Нараўчанская ластаўка»,***
*ПШ № 1 у Гайнаўцы*

## Азёры дабрыні

**Словы У. Карызны**
**Музыка Л. Захлеўнага**

Падходзяць да самага,
самага бору,
Шумлівага бору
Уволю наслухацца
музыкі спеўнай
Азёры.

Вякамі глядзяць з захапленнем
На сонца і зоры
І самі глыбеюць,
і самі святлеюць
Азёры,
І самі святлеюць
Азёры.

Я там хадзіла і сэрца студзіла
Да самага рання,
І хвалі змывалі палынныя слёзы
Кахання.

Я знаю, хто любіць душою
Блакіту прасторы,
У сэрцы таго дабрыні і спагады
Азёры,
Святла і спагады
Азёры.

Вякамі глядзяць з захапленнем
На сонца і зоры —
Сама дабрыня
краса майго краю —
Азёры,
Краса майго краю —
Азёры!

## УВАГА КОНКУРС! № 33-18

**З панадмохавай аховы**
**павысоўвалі хлопцы галовы.**
**Хто ні ідзе — іх вітае,**
**З сабой забірае.**
**Г....**

(У. Карызна)

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 26 жніўня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 29-2018: дзядоўнік. Узнагароду, кніжку Надзеі Ясмінскай «Сем ружаў» выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# АЗЁРЫ БЕЛАРУСІ

У Беларусі знаходзіцца больш за 10 тысяч азёраў. Самае вялікае па плошчы — Нарач, якое калісь называлі «беларускім морам». З Нараччу звязанае імя Максіма Танка. У творчасці паэта адчуваецца шорах хваль легендарнага возера, яго веліч і ўплыў на лёсы мясцовых людзей. Самае глыбокае — возера Доўгае.

Найбольш азёраў на поўначы краіны, у Беларускім паазер'і і на поўдні — на Палессі.

На поўначы краіны, у Браслаўскім і Вушацкім раёнах пад азёрамі знаходзіцца да 10 працэнтаў тэрыторыі. Тут азёры ўтвараюць групы або ланцужкі, звязаныя невялікімі рэкамі і патокамі.

Вушацкая група ўключае каля 40 азёраў, а браслаўская — больш за 50.

Гэты маляўнічы, прасякнуты легендамі рэгіён часта называюць «беларускай Фінляндыяй». Зараз, у летні разгар, пануе там ажыўлены турыстычны рух.

Алесь ПЛОТКА

## РАЗВІДНЕЛА

Развіднела.
На вуліцы выйшлі
З сутэрэнаў
Замшэлых з табой
І чырвоным,
Як спелая вішня
Наліліся...
І сонца з вадой,
Што ў далонях
Сваіх згартавалі
Чырвань тую
І песцілі нас,
Заблішчалі
Сцяжынай на хвалях,
Па якой мы
І крочым скрозь час.

Максім Танк

## Пасля дажджу

– Дзядзя,
колькі сонц на свеце?
Запыталі ў мяне дзеці.
Адказаў:
— Адно.
Смяюцца:
Не адно, а іх без ліку.
Сапраўды, пачаў лічыць я:
У кожнай лужы
— сонца блікі.

*Размалюйце!*

Малюнак: Алены Шалімы

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Певень і лінагузы

Певень закукарэкаў адзін раз і кажа:

— Хопіць!

— Ну, што ты, брат? — абурыўся панок, які любіў прачынацца пад поўдзень. — Твая роля кукарэкаць дык спяваць ажно ахрыпнеш!

— Сам Гасподзь сказаў, што калі сумленна займаешся справай, хопіць раз або два!

— Не выпендрывайся певень! — знерваваўся панок. — Табе загадалі спяваць, дык спявай!

— Для каго мне спяваць? — развіў дзюбу спявак з куратніка.

— Для тых, што любяць доўга паспаць, — зарагатаў панок.

— А вам да лямпы маё кукарэканне, — не адставаў певень, — спявай не спявай, усё роўна вы храпяце!

— А ты не брашы, — прыгразіў панок, — спявай, калі жыццё табе мілае! А мы будзем спаць і храпці ды перастанем да цябе прыдзірацца.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



*Магда Бяляўская і сябры Сустрэч Зоркі*

## Польска-беларуская крыжаванка № 33_18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 29-2018:**

Суп, соя, воля, драч, біч, дружына, вока, рот, акно, ла, схоў, як. Ясь, двух, ядро, важак, вочы, Об, сябар, Оля, пачатак.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Foto | | | | | Sklba | Konie | | Szacunek | |
| Bursztyn | | Tło | Marzenie | Skała | | | | | |
| | | Mapa | | Kosz / Łaska | | | | Góra | |
| | Kalina | | | | | | | Anoda | |
| | Jarzębina | | | | | | | | Ja |
| | Rosa | | | | | Ania | | | |
| | | | | | Na | | | | |
| Sarabanda | | | | | | | | | |

# Слёў фэст — фэст слоў

**Аж пад канец гэтага працяглага, сонечнага фэсту Мілка Мальзан запрасіла літаратараў. Пыталася: „...Усе мовы свету... Мёртвыя мовы; мовы жывыя. Мовы тых, якіх ужо няма, або мовы ўнутранага голасу. Мова цела, мова эмоцый... Ці мова стварае гэты свет? Пра гэта гаворка ідзе ў нас на маёй «рэзідэнцыі» ў час Слёў-фэсту ў Супраслі. Словы ставім у сказы, у zdania. Вось нашы dania — стравы, наша ежа ў паўсядзённым жыцці. Змест нашых жыватоў і галоў. Так? А можа інакш?..» Мілчын Фэст слоў працягваўся ў канцы ліпеня. А пачаўся ўвесь лагодны фестываль розных смакаў у чэрвені, а яго заканчэнне — 12 жніўня, а пасля яшчэ візіты ў іншых мясцовасцях, між іншым у Орлі. Павольны фэст у ціхім мястэчку — фэст смакаў, колераў, гукаў і слоў. Вялікія прозвішчы мастакоў з «вялікага свету» і тутэйшых.**


Фота Анны Сабэцкай

Дарота Сакалоўская, Міра Лукша, Дарыюш Кялчэўскі, Кшыштаф Пулаўскі

— Падляшскі SlowFest з'яўляецца фестывалем мастацтваў у блізкасці да прыроды. Мастацтва кіно, музыкі, літаратуры, кулінарыі і шмат чаго іншага. Прасоўваецца арыгінальная творчасць, прэзентуюцца мастакі ў пошуках і выдатныя. Стварае ён рэчаіснасць, у якой мастацтва, культура і прырода губляюць свае межы. І стылістычныя, і фармальныя. І нават звычайныя межы нашага ўспрымання і прыёму мастацтва і прыроды. Супрасльскі фестываль сплятае разам усе гэтыя элементы і стварае атмасферу павольнай плыні часу сярод красы. Мастакі, якія выказваюць універсальныя ісціны ў створаных сабою формах, патрабуюць прасторы часу, каб перадаць іх атрымальнікам, якія мусяць таксама знайсці час на хвіліну працяглага, няспешнага кантакту з мастацтвам, выбрацца па-за бурлівы горад. Выбраць SlowFest, выбраць старажытны Супрасль, — тлумачыў дырэктар фестывалю Пётр Дамагала. — Культура рэгіёна, дзе праходзіць фестываль, вельмі багатая і разнастайная. Гэта ідэальнае асяроддзе, каб сузіраць мастацтва на самым высокім узроўні. Блізкасць дзікай прыроды, цішыня, прыгажосць прыроднага ландшафту засяроджваюць і дазваляюць больш поўна ўспрымаць мастацтва. Кантакт з мастацтвам з'яўляецца натуральнай чалавечай патрэбай. Другі выпуск SlowFest сёлета багаты мастацкімі падзеямі ў многіх галінах. Наша запрашэнне прыняць удзел у фестывалі атрымалі выдатныя музыканты і рэжысёры з краіны і замежжа, найбольш цікавыя польскія пісьменнікі, музыкі, выдатныя і фенаменальны тэатр Вершалін. У супрацоўніцтве з пасольствам Швецыі ў Польшчы мы правялі, між іншым, рэтраспектыўны агляд твораў Інгмара Бергмана. Запрасілі самых цікавых літаратараў. Праводзіліся, між іншым, майстар-класы па пісанні ікон...

Мілка Мальзан, белавежанка з роду, доктар філасофіі, журналістка, аўтарка кніг, выкладчыца і аматарка... вязання кручком адмысловых, незвычайных шапак, сцвярджаючая, што гэта праява фантазіі — ісці за ніткай. Журналістка ў прэсе, тэлебачанні і радыё з 1995 года, у цяперашні час яе асноўная ўвага надаецца магіі радыё. У 2014 годзе абараніла доктарскую дысертацыю ва Універсітэце Мікалая Каперніка ў Торуні пад загалоўкам «Мастацтва і крызіс культуры. Асобныя праблемы філасофіі творчасці Мікалая Бярдзяева», выкладае ва ўніверсітэце ў Беластоку. На працягу некалькіх гадоў яна была спявачкай, мае два альбомы «Карта» і «Сіквел» і шмат іншых запісаў музыкі. Піша песні для сяброў, узгадоўваючы музычныя эмоцыі. Проста — як адна з гераінь яе «белавежскіх» кніг. Запрасіла сваіх сяброў-літаратараў на сустрэчу «**Уласная мова — Уласны свет**».


Фота Міры Лукшы

Мілка Мальзан

— Вось гэтае пытанне ставім чатыром мастакам слова на Падляшшы, якія, па-першае — спрытна ўплятаюць у свае кнігі тэму Падляшша, па-другое — са смакам і веданнем сягаюць па лінгвістычнае месніцтва, па-трэцяе — прыгожа расказваюць пра тое, што будуе іхні (таму і наш) літаратурны свет, і па-чацвёртае — прапануюць кнігі, якія прыглядваюцца рэальнасці з незвычайных перспектыў, — прадстаўляла сваіх сяброў Мілка Мальзан. — Хачу «выціснуць» з маіх гасцей, што можа іх мова — не толькі ў літаратуры, і не толькі. Іхнія кнігі прачыталі не толькі на Падляшшы. Гэта Кшыштаф Пулаўскі, Дарыюш Кялчэўскі, Міра Лукша і Дарота Сакалоўская. Кнігі прапаную таксама нашай публіцы — не толькі на летнія «гамачковыя» чытанні, хаця прынясуць яны вашым душам адпачынак і роздум. Прадстаўляю творцаў, якіх ведаю, заадно карыстальнікаў падляшскіх моў, асоб, якія думаюць пра мову спецыфічна. Паявілася Дарота Сакалоўская, якая з'яўляецца «голасам радыё», цудоўным, прытым піша, запісвае рэпартажы. Яна мае асаблівае чуццё таго, што можа слова, гук, якія нясуць хвалі эфіру, выдала таксама кнігу «Dźwiękoczułość», выдала кнігу пра Ломжу, адкуль яна родам, і пра Астралэнку. У Дароты — цудоўнае панаванне над гукам, над голасам, якія нясе сэнсы. Міра Лукша... Не ведаць Міры Лукшы, жыўшы на Падляшшы — гэта проста нейкая немагчымасць. 17 кніжак да гэтай пары, па-беларуску і па-польску, і яе этап пальшчызна — забава словам. «Радаслоў» — прыгожыя вершы, якія пераносяць чытача ў прастору гісторыі часу. Мяне зацікавіла найбольш тое, што Міра ў сваім пісанні — двухмоўная, а яе творы — не пераклады з мовы на мову. Робіцца нейкі «клік», і пішаш на «матчынай» мове, а з другога боку чэрпаеш з тае мовы, якая навокал, і распавядаеш гісторыі з зусім іншай моўнай перспектывы. Далей — Дарыюш Кялчэўскі — які напісаў першую навуковую публікацыю аб «Slow» (2009 г.), універсітэцкі прафесар, звязаны з «Карткамі» — беластоцкім літаратурным часопісам вельмі важным у літаратуры не толькі Падляшша, які ўпарадкоўваў літаратурнае жыццё на нашай зямлі. У 2011 годзе была напісана і выдадзена яго кніга, намінаваная да Узнагароды Казанэцкага — „Opowieści z Chruściela”. Мова ў гэтай кнізе з'яўляецца пэўнай варыяцыяй таго, што мы думаем пра «падляшскасць». І Кшыштаф Пулаўскі з Супрасля — перакладчык, выкладчык і паэт. Ягоная кніга «Martwiątka» ў мінулым годзе была намінавана да Узнагароды Казанэцкага. Уводзіць новыя словы, і здарылася ў мове штосьці магічнае — аўтар пераклаў вершы, якіх няма неіснуючага аўтара. Зрабіць штосьці такое з мовай — гэта самае высокае мастацтва...

Мае роздумы пачала я ад таго, што мовы гінуць, што гінуць людзі, якія імі карыстаюцца, але існуюць дыялекты, якія мы лічым архаічнымі, а на якіх людзі ўсё ж паразумяваюцца. Навукоўцы негацыяцыі рашылі даць у рукі машынам, якія вельмі спраўна праводзілі негацыяцыі паміж сабою, але праз нейкі час стварылі сваю мову, недаступную для тых, якія імі кіравалі — на іх «думку» больш эканамічную, якая хутчэй праводзіла тыя працэсы. Гэты эксперымент хутка — афіцыйна — закрылі, заявіўшы, што гэта мова вельмі прымітыўная, і няма чаго гэта працягваць. Падазраю, што тая мова не была такая прымітыўная, як здаецца, але з другога боку гэта быў сігнал, што мовы ўзнікаюць, нават калі гэта мовы машын. Мова — матэрыял эластычны, і трэба дазволіць дзейнічаць ёй у прасторы. Мы, як грамадства, тэхніцызуемся, уваходзяць новыя светы, нават праз мовы. Мяне цікавіць, як кожны з аўтараў карыстаецца мовай, і для нас мова з'яўляецца прыладай, інструментам, ці чымсьці, што трывае толькі ў фоне.

— Я спачатку, як радыёжурналіст, — сказала Дарота Сакалоўская, — мела мову, якая належыць камусьці іншаму. Запісвала рэпартажы, а рабіла вельмі шмат дакументальных запісаў. На базе гэтых запісаў узнікла кніга «Dźwiękoczułość». Гэта гісторыя беластоцкіх постацей, вельмі важных для горада. Але прабавала іх змясціць у нейкай літаратурнай «краіне». Мела запіс таго, як яны расказваюць пра свой свет. Я праз чужыя словы ўбачыла свой горад, свой уласны свет. Стварэнне з іх тэксту досыць цяжкае — «адрываюцца» тыя словы ад чалавека і робіцца той свет па-твойму, пераствораны праз тваю ўяву, фільтраваны праз твой пункт гледжання...

— Падобным чынам узніклі мае «Бабскія гісторыі», — дадала Міра. — Гэта запісы «споведзі» важных для мяне людзей — а няма няважных сустрэч у жыцці — такія пункты, якія зварухваюць тваю ўяву, ажыўляюць слова, атмасферу, клімат, думкі, аналіз і абагульненне. І слова вяртае былое да жыцця, не толькі для мяне — слова ажывае кожны раз, калі чытач бярэ кнігу ў рукі, узнаўляецца верш, думка, расцвітае чарговы раз у душы, ва ўяве — проста становіцца нанова новым светам. А калі творы ўзнікаюць на розных мовах? Гэта так, як у маёй «падзяцы» на Казанэцкім: «Веру ў слова, якое злучае, а не падзяляе... Дзякую месцу і людзям, дзякуючы якім ведаю, хто я... Дзякую Богу за мовы, якія выбрала я і якія выбралі мяне, каб я была ў сваім быцці памножаная і аддала ўзаемна і двойчы». У адным з вершаў успамінаю «скамяненні слоў ужо дарослых людзей», не такія, як у жывой мове дзяцей, пры іхнім словатворстве. Але тую мову стараюся ажыўляць, для чаго хоць крышку трэба застацца дзіцём, не «забіць» у сабе тую маладосць жывой мовы, якая развіваецца. Пішу перш за ўсё па-беларуску, не стылізую чагосьці пад модную «падляшскасць», нейкі ці то фальклор, ці то «канапельку». Таксама гуляю словам, бо слоўная творчасць гэта гульня, радасць. І працую.

— Мы можам яшчэ, я і Міра, гаварыць пра руплівую працу як перакладчыкаў, — дадаў прафесар Кшыштаф Пулаўскі. — Працуе над чужымі тэкстамі, дзень у дзень, стараючыся як найлепш перастварыць чужыя тэксты, каб яны сталі нашымі, і для чытачоў блізкімі. Гэта як будаванне мастоў, які спалучаюць два берагі. Вельмі цешыць, што бачыцца наша карпатлівая праца са словам, у выпадку Міры — узнагарода імя Веслава Казанэцкага за цэласнасць творчасці, таксама перакладчыцкую. Сустрэчы на фестывалі «слёў» скліваюць сапраўды шмат аматараў культуры, для якіх паездка ў мой ціхі Супрасль кожнае лета — вялікае душэўнае задавальненне, асалода і імпульс.

(лук)



# Драгічын

З выш стагадовай даўнасці *Энцыклапедычны слоўнік* Брокхаўза і Эфрана: „Драгічын, заштатны горад Гродзенскай губерні, Бельскага ўезда, на Заходнім Бугу, у 54 вёрстах ад уезнага горада. Цячэннем Буга горад раздзелены на дзве часці, з якіх ляжачая на правым баку ракі называецца Ляцкай і ляжыць у Гродзенскай губерні, а распаложаная на левым беразе Буга — Рускай — знаходзіцца ў межах Сядлецкай губерні. Ужо ў XII стагоддзі тут было ўмацаванне. (...) У 1240 г. Драгічын быў спустошаны татарамі і неўзабаве заняты літоўцамі, пасля чаго яшчэ некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. У XVI ст. Драгічын уступаў па дабрабыце толькі Гродну, Вільні і Брэсту. У 1569 г. Драгічын перайшоў ад Літвы да Польшчы і з таго часу стаў хіліцца да ўпадку ў выніку хцівасці войтаў і старостаў. У 1657 г. Драгічын разбурылі шведы, у 1660 г. — рускія; пацярпеў ён таксама шмат у час вайны са шведамі (1702). Пры трэцім раздзеле Польшчы Ляцкі бок Драгічына дастаўся Прусіі, Рускі — Аўстрыі. У 1807 г. Ляцкі бок Драгічына далучаны да Расіі. (...) Зараз горад складаецца найбольш з мізэрных збудаванняў, жыхары якіх займаюцца земляробствам і агародніцтвам. Сярод гэтых хацін высяцца гмахі двух скасаваных каталіцкіх манастыроў ды будынкі былой езуіцкай калегіі і піярскага вучылішча. У 1891 г. было 2041 жыхароў (1083 мужчыны і 958 жанчын); з іх ліку 862 праваслаўныя, 658 католікаў і 517 яўрэяў".

Больш-менш у той жа час выдатны польскі краязнаўца Зыгмунт Глогер так пісаў пра Драгічын: „Драгічын не меў свайго гісторыка, які б яго вывучыў і жыва апісаў. Крутая гара над Бугам надавалася на крэпасць, таму ўжо ў XI ст. з'яўляюцца звесткі пра тамашні замак. У XII і XIII стагоддзях град гэты быў усходняй заставай Мазовіі. (...) У 1444 годзе Казімір Ягелончык асобнай прывілеяй прылічыў Драгічын да пятнаццаці важнейшых гарадоў Вялікага Княства Літоўскага. (...) Сёння Драгічын адзначаецца руінамі. Два вялікія трохэтажныя будынкі па езуіцках а пасля піярскіх школах, нядаўна мелі яшчэ дахі, але не было ўжо дзвярэй і акон. Былы францысканскі касцёл, ужо амаль без даху, быў стылёвы і мог быць аздобай большага горада. (...) Другі касцёл, сёння ў руіне, даўней служыў паннам бенедыкцінкам, быў меншы ад францысканскага, але з гэтак жа стылёвымі алтарамі і інтэр'ерам. Гара па старажытным замку складаецца з цвёрдай глінянай скалы, пастаянна асыпаючайся ў Буг, які сваім цячэннем падмывае яе з аднаго боку і значна яе ўжо паднішчыў. (...) Мясцовая легенда, звычайная народная казка, уласцівая ўсім нашым замкам, паведамляе, што гару тую насыпалі рукамі ваеннапалонных, а ў яе сярэдзіне падзямеллі поўныя скарбаў, што падзямеллі тыя злучалі калісь драгічынскі замак з кляштарам францысканцаў. Калі слухаеш тых прасцяцкіх расказаў і ўсвядоміш беднату нашага краязнаўчага пісьменства, ахоплівае нас прыгнятальнае пачуццё нейкага сораму; сораму не за прасцякоў, якія маюць тую перавагу, што нешта помняць і перадаюць сваім дзецям, але за мнімую інтэлігенцыю, якая, маючы на вуснах фразы пра нацыянальныя традыцыі, сама пра іх найменш помніць і не перадае іх сваім дзецям. Пра такі, напрыклад, Драгічын, і пра сто падобных мясцовасцей апрача сухіх паўтораў у энцыклапедыях зусім не маем вытокавых ні папулярных манаграфій. Даследчыкі нашай агульнай мінуўшчыны нямногія, перад імі абшырная неўзараная ніва і таму падобных апісальных прац нельга ад іх патрабаваць. Затое маем столькі геральдыкаў і адукаваных людзей, але гультаёў, якія замір ляпіць радаводы і штовечар іграць у карты, калі б хацелі прыслужыцца свайму грамадству, маглі б вобразна апісаць мінулае нейкай гістарычнай мясцовасці, чэрпаючы матэрыялы з хронік, мемуараў, люстрацый старостваў ды дамашніх архіваў. Народ жыве легендай, а інтэлігенцыя лічыць за лепшае сесці на шэсць гадзін за віст, чым на тры ўзяць у рукі гістарычную кніжку, каб з яе павучыць сябе, сваю дзетвару і хатніх. Можа калі Бог злітуецца над нашай разумовай галечай і дух разумнай добрай волі асвеціць, калі ўжо не нас, то хаця нашых патомкаў зразуменнем, што нявыкананы абавязак з'яўляецца грахом грамадскага сумлення, за які кара трупешнасці".

Гісторыю пішуць у прынцыпе пераможцы, а Драгічыну ў гэтай справе не надта пашанцавала, у прынцыпе горад апынаўся на пройгрышных пазіцыях. Нешта накшталт кволенькай манаграфіі Драгічына паказалася ў 1980 годзе стараннем беластоцкіх гісторыкаў. Але вобразнага апісання гэтай гістарычнай мясцовасці там, па сутнасці, няма. Было б, калі б Драгічынам правілі нейкія пераможныя ўладары мясцовага вываду. Аднак Драгічыну гісторыя адвяла вельмі правінцыяльную ролю. Згадваюцца далёкія кіеўскія, валынскія, літоўскія, мазавецкія ўладары, толькі не мясцовыя. З'яўляліся сюды і пасланцы яшчэ далейшых шведскіх, маскоўскіх ці трансільванскіх уладароў, якія ўжо рашуча парупіліся, каб як найменш захавалася драгічынскай гістарычнай спадчыны, у тым ліку і носьбітаў мясцовых легенд. У такіх абставінах дзеля вобразнага апісання гэтага горада спатрэбіліся б не гісторыкі, толькі літаратары. А на такіх Драгічыну дасюль не пашанцавала.

Сюжэты для мясцовай гісторыі напэўна знайшліся б. Для прыкладу — Замкавая гара, якая вертыкальнай сцяной сыходзіць да берага Буга. Сам Зыгмунт Глогер быў у яе склепах, якія, як сам меркаваў, маглі быць астрогамі замкавых уладароў. Вось у Кракаве ёсць таксама на Віслe замкавая гара — Вавель. І пра яе склепы якая легенда, хрэстаматыйная легенда пра вавельскага цмока! Ды што гаварыць пра Кракаў — наша ж Мацейкавая Гара на Нарве таксама мае сваю легенду, хаця з гістарычнай роляй гэтай мясцовасці не атрымалася. Жыў жа на ёй, паводле той легенды, люты ўладар, але не было гісторыкаў, якія пасведчылі б пра ягонае княжанне; калі б яно было пераможнае, напэўна такія знайшліся б. Ці расійскі народны герой Сцяпан Разін, які таксама верхаводзіў з набярэжнай скалы на Волзе. Паводле папулярнай песні скінуў ён са свайго чаўна персідскую прынцэсу за борт, але паводле іншай легенды зрабіў ён гэта, але з апанаванага ім абрыва. Або вось такая гара Лорэлей на Рэйне, да якой дарваліся нямецкія рамантычныя літаратары, ствараючы сюжэт пра трагічнае каханне, закончанае саскокам расчараванай Лорэлей у хвалі ракі. І ў Драгічыне знайшліся б драматычныя сюжэты, бо ж горад у сярэдневяковы час бурліў жыццём. Тут напэўна здараліся і рамантычныя падзеі, калі мясцовыя прыгажуні пазнавалі багатых гандляроў з далёкіх краін. І напэўна трагічныя падзеі, калі тыя гандляры трацілі свае скарбы ў карысць мясцовых ці гастрольных зладзеяў або рабаўнікоў. І яшчэ больш трагічныя, калі тыя нешчаслівыя героі кідаліся з Замкавай гары ў хвалі Буга, так як пазней такія ж з Эйфелевай вежы ў Парыжы, з моста Голдэн-Гейт у Сан-Францыска ці з высот варшаўскага Палаца культуры... Напэўна ў той зорны час былі ў Драгічыне прысутныя ўсе тыя персанажы, якія характэрныя працвітаючым мясцовасцям, якія акрыляюць уяўленне таленавітых аўтараў; а можа ў самім Галівудзе знойдзецца нехта, хто прыдумае сюжэтную жамчужыну на радзіме найбольш вядомага выхаванца Драгічына — Данеля Альбрыхскага... [Альбрыхскі нарадзіўся ў 1945 у Ловічы, а ў Драгічын прыехаў з маці ў 1946].

На Баравіцкім грудзе на рацэ Маскве князь Юры Даўгарукі ўзвёў крэпасць — сусветна вядомы маскоўскі Крэмль. Ягоныя ўладары, у адрозненне ад нашага легендарнага Мацейкі ці ананімных драгічынскіх пачынальнікаў, сталі трасці справамі вялікай часткі свету.



Фасад касцёла бенедыкцінак

Патраслі яны таксама і драгічынскімі падзеямі, у тым ліку і згаданымі Глогерам касцёламі, намагаючыся спыніць іх місію. Таму яны апынуліся ў стане руіны...

Францысканскі касцёл; Вікіпедыя: „Franciszkanie przebywali w Drohiczynie do 1832 r., kiedy to po upadku powstania listopadowego ukazem rosyjskich władz gubernialnych z dnia 17 maja zostali wypędzeni z Drohiczyna. Rosjanie na ich miejsce w 1836 r. sprowadzili mniszki prawosławne. W latach 1833-1837 zakrystię kościoła zamieniono na cerkiew prawosławną pw. św. Nikanora, a w 1838 roku w klasztorze urządzono więzienie, które po powstaniu styczniowym zamieniono w 1865 roku na koszary dla wojska. Po odejściu wojska w 1897 roku Świątobliwy Synod Rządzący umieścił w klasztorze szkołę kształcącą nauczycieli do szkół wiejskich, którą w lipcu 1904 została przekształcona na szkołę żeńską działającą do 1914 roku, gdy Drohiczyn zajęli podczas I wojny światowej Niemcy. W 1918 roku po odzyskaniu niepodległości klasztor odnowiono i umieszczono w nim gimnazjum im. J. I. Kraszewskiego, a w 1929 roku rozpoczęto odbudowę bardzo zrujnowanego już kościoła. Jednak w czasie II wojny światowej uległ on ponownej dewastacji przez wojska radzieckie, a w dniu 23 czerwca 1941 roku sowieci podpalili świątynię, niszcząc całkowicie dach, ołtarze i wierzchołek dzwonnicy". Пасля вайны касцёл быў рэстаўрыраваны.

Кафедральны касцёл; стэнд перад храмам: „Kościół pw. Trójcy Przenajświętszej, jako jedyny w Drohiczynie, nie został zamknięty i zdewastowany w czasie zaboru rosyjskiego. Dopiero okupacja sowiecka w latach 1939-1941 doprowadziła do zbezczeszczenia i całkowitej dewastacji wnętrza świątyni. Porąbano doszczętnie barokowe ołtarze, a wewnątrz świątyni urządzono stajnię. Ówczesny proboszcz ks. Edward Juniewicz zdołał ocalić jedynie osiem spośród 38 obrazów oraz dwie spośród 138 rzeźb, wszystkie kielichy i niektóre ornaty. W latach 1941-1944 kolejni okupanci — Niemcy — urządzili tutaj strzelnicę. Po wojnie proboszczowie i parafianie drohiczyńscy włożyli wiele wysiłku, aby kościół przywrócić do dawnej świetności...".

Згаданы касцёл бенедыкцінак; стэнд: „Kościół i klasztor zamknięto 2 września 1864 roku z rozkazu gubernatora grodzieńskiego i wileńskiego Mikołaja Murawiewa. Zaborcy nakazali rozbiórkę budynków klasztornych, świątynię przekazano mniszkom prawosławnym, urządzając w zakrystii małą cerkiew pw. św. Agapita. Po ich wyjeździe w 1885 roku pomieszczenia klasztorne zamieniono na koszary wojskowe. (...) W latach 1939-1941 sowieci zamienili świątynię na szalet, służący żołnierzom strzegących granicy na Bugu. (...) 8 listopada 1957 roku siostry benedyktynki wróciły do Drohiczyna wypędzone z Nieświeża...".

Калі б знайшоўся нейкі літаратар жанру *fantasy*, мог бы ён паразважаць пра альтэрнатывы, калі б Драгічын, Масква і Мацейкава Гара памяняліся паміж сабою гістарычнымі ролямі...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞працяг

# 25 гадоў гайнаўскай «Перапёлцы»

разоў выязджалі ў Беларусь. Апошнім часам пабывалі ў Маскве і наваколлі, выступалі там з нашымі танцамі. Многа мы пабачылі і перш за ўсё класна правялі час у вялікай сям'і найстарэйшай групы танцавальнага калектыву. Аднак шматлікія нашы рэпетыцыі былі таксама цяжкай працай і мы вымушаны запомніць усе дэталі паасобных танцаў, каб падчас выступаў іх не пераблытаць. Пані Юсцінія ўмее заахвоціць да цяжкай працы. Займаючыся ў «Перапёлцы» мы таксама выправілі сваю фізічную форму, — сказаў Яцак Дружба, які выступае яшчэ з вакальнымі калектывамі і састаўляе ім акампанемент на акардэоне. У апошнім школьным годзе стаў ён стыпендыятам маршалка Падляшскага ваяводства за поспехі ў галіне культуры.

— Мы траплялі ў «Перапёлку» рознымі дарогамі. Усе любім танцаваць і падабаюцца нам народныя танцы, — заявілі дзяўчаты з «Перапёлкі».

Беларускія народныя танцы «Лявоніха», «Весялуха», «Крутуха», «Расхадуха» спадабаліся публіцы сабранай на юбілейным канцэрце.

— Мы ўжо многа гадоў танцуем народныя танцы. Беларускія танцы вельмі эмацыйныя і дынамічныя і мы любім іх танцаваць, — гаварылі юныя танцоры.



— Я пачала танцаваць у «Перапёлцы» ў 1995 годзе. Мне так спадабалася танцаванне ў калектыве, выезды, выступы і атмасфера сярод удзельнікаў, што ў 2007 годзе рашылася працаваць з «Перапёлкай» яго мастацкім кіраўніком, здабыўшы раней адпаведную адукацыю. Многа выпускнікоў нашага танцавальнага калектыву спалучыла пасля сваё жыццё з народнымі танцамі і зараз яны сталі членамі калектываў народных танцаў у розных гарадах Польшчы. Аднак галоўнай задачай «Перапёлкі» з'яўляецца папулярызацыя танцаў і спеву сярод дзетак і моладзі Гайнаўкі. Нам гавораць, што танцуем вельмі добра, але не хапае нам капэлы і спеву, бо тады падчас фестываляў ацэньвалі б нас яшчэ вышэй. Я зараз паспрабавала вучыць нашых танцораў спеву і былі асобы ў нашым калектыве, якія састаўлялі нам акампанемент на акардэонах. Аднак я хацела б, каб «Перапёлка» спявала і танцавала пад інструментальную музыку сваёй капэлы, але гэта справа будучыні, — сказала мастацкі кіраўнік «Перапёлкі» Юсцінія Бірыцкая.

Калі на сцэну ўвайшло амаль сто танцораў «Перапёлкі», на сабраных зрабіла гэта вялікае ўражанне. Да іх з пажаданнямі, кветкамі і падарункамі падышлі дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і запрошаныя госці, якія адзначылі вельмі добрую падрыхтоўку гайнаўскіх танцораў да юбілейнага канцэрта. Звярталі яны ўвагу, што «Перапёлка», як амбасадар Гайнаўкі, расслаўляе горад на ўсю Польшчу і замежжа. У канцэртную залу ўвезлі вялікі торт, які раздзялялі паміж удзельнікаў танцавальнага калектыву, запрошаных гасцей і публіку. Кожны ўдзельнік «Перапёлкі» атрымаў ад дырэктара ГДК Расціслава Кунцэвіча і Юсцініі Бірыцкай загадзя падрыхтаваныя падарункі, сярод якіх былі памятныя статуэткі і медалі. Сабраныя падзякавалі танцорам і іх мастацкаму кіраўніку Юсцініі Бірыцкай за паспяховую шматгадовую працу з калектывам народнага танца і праспявалі «Многая лета» і «Сто лят». Мерапрыемства магло адбыцца дзякуючы спонсарам, якімі былі магістрат, Павятовае староства, Маршалкоўская ўправа ў Беластоку і гайнаўская суполка «Падляшскі гарнец». Пасля афіцыйнай часткі святкавання дзетак і моладзь павіншавалі іх сямейнікі. Юбілейнае мерапрыемства закончылася пачастункам і гульнёй. Юбілей Калектыву народнага танца «Перапёлка» выклікаў многа эмоцый у танцораў, іх сямейнікаў і ў публікі, якая сабралася ў Гайнаўскім доме культуры.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**




## http://domusmuseum.histmuseum.by

Прынята лічыць, што падчас існавання Савецкага Саюза Беларусь была найбольш савецкай з усіх іншых рэспублік. Падставы для такога меркавання меліся больш чым грунтоўныя — тады цяперашняя беларуская краіна была амаль суцэльна атэістычнай (дзеючых храмаў можна было пералічыць па пальцах), а выкараненне нацыянальнай мовы падштурхоўвала жаданне хутчэй прыйсці да камунізму. Зразумела, што праслаўленне бальшавіцкіх дзеячаў набыло такі размах, які і дагэтуль немагчыма ўтаймаваць — практычна кожнае мястэчка мусіла мець статую Леніна, а вуліцы спрэс насілі імёны асоб і падзей, звязаных з камуністычнай ідэалогіяй.

У такіх варунках цалкам зразумела, што камуністычныя беларуская ўлады з ахвотай выкарыстоўвалі ўсё тое, што так ці інакш атаясамліваецца з іх ідэалогіяй. Адным з прыкладаў з'яўляецца існуючы дагэтуль у Мінску дом-музей першага з'езда Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП), сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://domusmuseum.histmuseum.by.** І хоць за камуністычным часам дадзены з'езд, што адбыўся ў сакавіку 1898 года, асабліва важным улады не лічылі, бо, па-першае, з'яўленне бальшавікоў адбылося на другім з'ездзе, што праходзіў у Брусэлі і Лондане, і, па-другое, прысутныя ў Мінску дзевяць дэлегатаў не выпрацавалі ані статута, ані праграмы партыі. Таму рэальна РСДРП у Мінску створана не была. Аднак гэта не перашкодзіла ўжо ў 1923 годзе стварыць у той хаце музей.

„Дом-музей І з'езда РСДРП — самы стары музей горада Мінска. Дом на вуліцы Захар'еўскай, дзе ў 1898 годзе праходзіў І з'езд РСДРП, стаў музеем у 1923 годзе. З 1991 па 1992 гады музей быў зачынены. У 2007 годзе музей быў закрыты на капітальны рамонт, пасля завяршэння якога адкрыў свае дзверы для знаёмства з новай экспазіцыяй і выставачнай залай. Дом-музей унесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, як помнік гісторыі", — распавядаецца на сайце дома-музея ў рубрыцы „Музей".

Пра гісторыю музея вядзецца гутарка ў аднайменнай рубрыцы. Дарэчы, даволі сцісла. Там, па сутнасці, дадаецца да прадстаўлення музея невялікая інфармацыя пра яго адкрыццё і аднаўленне пасля Другой сусветнай вайны.

Крыху больш звестак пра тое, што адбываецца зараз у доме-музеі, мы пачарпнем у рубрыцы „Выставы і мерапрыемствы". Адтуль мы даведаемся, што ў першай палове жніўня там праходзіць выстава „Дом на Захар'еўскай", прымеркаваная да 95-годдзя адкрыцця музея і 120-годдзя таго з'езда РСДРП, дзе партыя створана і не была. „Дом на Захар'еўскай вуліцы (зараз — праспект Незалежнасці) стаў не толькі месцам правядзення эпахальнай падзеі ў жыцці Мінска, але і турыстычным сімвалам горада. Наведвальнікі змогуць пазнаёміцца з фотаздымкамі, якія захавалі гістарычныя моманты з жыцця Дома-музея, кнігамі, перыядычнымі выданнямі і іншымі матэрыяламі, якія маюць дачыненне да яго гісторыі", — надта гіпербалізуюць значэнне дадзенага гістарычнага аб'екта яго ўладальнікі — Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь.

Пра тое, якія навучальныя заняткі праводзяць супрацоўнікі дома-музея, можна даведацца ў рубрыцы „Адукацыя". Згодна з пададзенай там інфармацыяй, наведаць іх будзе карысна школьнікам. Таксама пры музеі існуе гістарычны клуб „Музейны размоўнік". Бліжэйшая сустрэча ў ім запланавана на чэрвень, праўда невядома, якога года.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара

### Падзеі і асобы БНР



# 115 гадоў з дня нараджэння Міколы Абрамчыка

Мікола Абрамчык нарадзіўся 16 жніўня 1903 году ў вёсцы Сычавічы пад Радашковічамі (Вялейскі павет, цяпер Маладзечанскі раён). Міколаў прадзед Базыль Абрамчык меў трынаццаць сыноў, і ўсе яны ўзялі ўдзел у паўстанні 1863 г. Адзін быў за гэта павешаны на царскай шыбеніцы, іншыя высланыя, а Міколавага дзеда Янку выгналі з духоўнай семінарыі і пазбавілі грамадзянскіх правоў.

Мікола Абрамчык скончыў знакамітую Радашковіцкую беларускую гімназію. Калі там вучыўся, ва ўзросце 19 гадоў атрымаў мандат упаўнаважанага БНР у Вялейскім павеце. Нацыянальныя сілы рыхтавалі тады ў Заходняй Беларусі вызвольнае паўстанне. З мэтай каардынацыі дзеянняў з менскімі незалежнікамі Абрамчыка пасылаюць у савецкую Беларусь. За два гады ён каля 30 разоў нелегальна пераходзіў мяжу БССР і ва ўмовах канспірацыі сустракаўся з прафесарам Усеваладам Ігнатоўскім, тагачасным наркамам асветы. Менавіта Ігнатоўскі, якога Абрамчык усё жыццё будзе называць сваім „духовым бацькам", і ўвёў яго ў мінскі антыбальшавіцкі асяродак.

З 1923 г. Абрамчык працягваў адукацыю ў Празе, вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі, быў дзеячам Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. Атрымаў дзве адукацыі — інжынера-эканаміста і гісторыка-сацыёлага. У Чэхаславаччыне зблізіўся з прадстаўнікамі ўрада БНР Пётрам Крэчэўскім, Васілём Захаркам і іншымі. Пасля Прагі больш за год вандраваў па Заходняй Еўропе, вывучаў эканамічныя асновы сельскай гаспадаркі. У 1930 г. пераехаў у Францыю, стаў там заснавальнікам і кіраўніком Аб'яднання беларускіх рабочых „Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі" (1932), выдаўцом яго перыядычных выданняў „Бюлетэнь" і „Рэха". Пэўны час жыў у горадзе Ліён. Сябар і паплечнік Абрамчыка Лявон Рыдлеўскі ў сваіх успамінах піша, што Мікола мусіў пакінуць Францыю, трапіўшы на вока гестапаўцам.

У 1941-1943 гг. у час Другой сусветнай вайны Абрамчык — дзеяч Беларускага камітэта самапомачы (БКС) у Берліне, рэдактар газеты „Раніца" (1939-1944), арганізатар і лектар курсаў беларусазнаўства, выдавец кніг Якуба Коласа „Сымон Музыка" і Ларысы Геніюш „Ад родных ніў". Працаваў у Камітэце самапомачы ў Беластоку. У канцы 1943 года вярнуўся ў Парыж. Старшыня (прэзідэнт) Рады БНР (1943, снежань 1947-1970). У 1947 г. арганізаваў крывіцкую Раду БНР (крывіцкі блок). Быў жанаты з Нінай Ляўковіч (з пачатку 1940-х гг.). Мікола Абрамчык быў працаўніком пераходу беларускіх епіскапаў у Расійскую Замежную Праваслаўную Царкву і адным з ініцыятараў адраджэння Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў 1948 г.

Абрамчык браў актыўны ўдзел у пасляваенным антыкамуністычным руху, напісаў і выдаў брашуру „I accuse Kremlin of Genocide of My Nation" („Я абвінавачваю Крэмль у генацыдзе майго народа"; ЗБК, Таронта, 1950). У 1950-1960 гг. быў прэзідэнтам Лігі за вызваленне народаў СССР (League for the Liberation of the Peoples of the USSR [Paris Bloc]). Пісаў іншыя матэрыялы пра трагічнае становішча беларусаў у СССР.

Памёр Мікола Абрамчык 25 траўня 1970 г. Пахаваны ў Парыжы на славутых могілках Пэр-Ляшэз. З-за таго, што на магільнай пліце не было надпісу, а магіла значны час не даглядалася, месца пахавання Міколы Абрамчыка было згублена. Намаганнямі сябраў згуртавання „Беларуская нацыянальная памяць" магіла была адшуканая ў 2008 г.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Канцэрт Міхала Скепкі ў Нараўцы

**У нядзелю, 19 жніўня гэтага года ў амфітэатры ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбудзецца летні канцэрт выдатнага тэнара Міхала Скепкі (ён ураджэнец Пасек Нараўчанскай гміны) і яго прыяцеляў з Гродзенскім аркестрам. Пачатак а гадзіне 14-й.**

**На мерапрыемства запрашаюць Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. (яц)**

# Патрэбны ўказальнікі

7 жніўня гэтага года ехаў я павятовай дарогай з Плянты ў Семяноўку цераз Лесну Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Маставая на ёй асфальтавая, роўная. Бяжыць яна лесам. Гэты даволі рухлівы шлях перасякаюць роўныя гравійкі. Куды яны вядуць, невядома. Няма дарожных указальнікаў з назвамі бліжэйшых населеных пунктаў.

Адзін ёсць не даязджаючы да Семяноўкі. Тут аўтобусны прыпынак з раскладам язды. Маем тут і дарожны ўказальнік з надпісам „Osowe 0,50 km". Тут за бярозкамі быццам прыхаваная вежа-вышка для ўсіх, хто хоча назіраць праз бінокль за птушкамі або за зубрамі, якія калі захочуць, то выходзяць з лесу на шырокія разлогі меліяраваных і добраўпарадкаваных лугоў. Сенажаці тут пакошаны і сена сабранае. Вырасла маладая трава для лясных траваедных.

Вяртаюся да вышэйзгаданай 10-кіламетровай дарогі з Плянты ў Семяноўку. Паабапал яе сёлетняй вясной ссеклі ўсе кусты. Сюдою вядзе ўсходні веласіпедны шлях Green Velo, між іншым цераз Семяноўку, дзе ёсць прыстанішча побач святліцы. Цяпер турыстаў-цыклістаў і не толькі іх ездзіць шмат. Вельмі прыдаліся б тут дарожныя ўказальнікі на скрыжаваннях дарог. Хто мае іх паставіць? Ці не Павятовае праўленне дарог у Гайнаўцы? **(яц)**

# Хто пацікавіцца?

Пры вуліцы ў Кузаве з боку чыгуначнай станцыі растуць шасцідзесяцігадовыя ліпы. Памятаю з юнацтва як моладзь згуртаваная ў Саюзе вясковай моладзі па ініцыятыве Яна Саўчука сына Рыгора садзіла іх на грамадскіх пачатках. Такія тры раскідзістыя ліпы знаходзіліся каля маёй хаты. Адна стаяла ля ўваходнай брамкі, а дзве выросліся па-над дахам дома. Доўга мне прыходзілася хадайнічаць за высечку гэтых ліп. Гміна тлумачыла, так як і Аддзяленне дарожных публічных дарог у Гайнаўцы, што ваяводскі захавальнік прыроды не дазваляе. Прыязджалі прадстаўнікі з ваяводства. Справа доўжылася больш года. І ўрэшце далі гміне дазвол на высечку чатырох ліп. Пасля яшчэ суседу ўдалося атрымаць дазвол на высечку ліпы на ягонай сядзібе. Аднак пяць магутных дрэў засталося — чатыры пры сядзібах Валодзі Пікуціна і Олі Раманчук ды пятая насупраць дома Клімука. Ліпы пагражаюць дарожнай бяспецы. Невядома калі ў час урагану дрэва можа грымнуць на вуліцу, дзе могуць знаходзіцца людзі або машыны. Каго тады будзем вінаваціць? Ці не варта было б падумаць аб адсячэнні дрэва да паловы. Ліпа хутка адрастае, затым верхняя частка створыць шыкарны букет.Трэба адно разважліва вырашыць праблему.

❖ **Уладзімір СІДАРУК**

# Цяжкі год

Селяніну заўжды вецер у вочы. Як не ліўні, навальніцы, дык засуха. Вось, хоць бы сёлета. На прадвесні «агароднікі», таксама «Зоська» не адазваліся. У садках цвет не замерз. Калі я выязджаў у красавіку ў бальніцу, дык здавалася, што фруктовыя дрэўцы не надта былі абсыпаны цветам. Затым не спадзяваўся станоўчага ўраджаю. Праўда, сёлета не апрацоўваў я прыдамашняга агародчыка і цяпліцы. Балючыя ногі не дазволілі займацца гаспадаркай. Амаль два месяцы шпіталізаваўся. Пакрысе памагло. Калі вярнуўся я дамоў у пачатках ліпеня, дык вачам не паверыў. На панадворку красаваліся сакавітыя вішні, чарэшні, слівы, яблыкі ды грушы. З сумам паглядаў я на парослы пустазеллем агародчык, ды шэрую неўпарадкаваную цяпліцу. Для мяне, даўнейшага валацугі, сэрца крывёю аблівалася, гледзячы на запушчаную сядзібу. Палова фруктаў, асабліва яблык, сліў-вянгерак ды груш прагніло пад дрэўцамі. Зямля была шчыльна імі пакрыта. Што змог ды пры дапамозе Усявышняга прыспасобіў на зіму. Зрабіў каля сотні слоікаў (твістаў) кампоту, больш за трыццаць слояў варэння. Ды яшчэ мінулагодняга запасы засталіся. Але, як прымаўка напамінае, запас бяды не чыніць. І я так гавару. Людзям шмат параздаваў рознага віду варэнняў і соку. Угашчаў сяброў духмяным араматным вінам. Сёлета, здаецца, будзе багаты збор вінаграду. Абы здароўе пашанцавала. Зноў прадбачваецца многатыднёвая шпіталізацыя. І хоць цяжкі для мяне сёлетні год, але духам не падаю. Лічу, што над маім домам калісьці засвеціць сонца.

❖ **Уладзімір СІДАРУК**

PS. У мінулым годзе прадпрымальнік з Сямятыч займаўся скупкай яблык. Плаціў па 59 грошаў за кілаграм. У гэтым годзе скупкай не займаецца. Тэлефанавалі яму, пыталі. Нічога не абяцаў. Ды і людзям варэнне і кампоты ўжо «пераеліся». У Чаромсе на чыгуначнай станцыі зямлю пакрываюць спады яблык, сліў ды груш. Ніхто не зварухнецца падымаць іх. І гавораць, што ў Польшчы кепска жывецца...

# 19.08 — 25.08

**(22.03. — 20.04.)** Добрая форма і аптымізм. Схільнасць да марнавання энергіі і часу. Старайся захоўваць памяркоўнасць, не пераходзь усталяваных межаў, але і не адмаўляйся ад сваіх прынцыпаў. 19.08. апынешся пасярод гучнай імпрэзы. 24.08. пачнуцца ў цябе новыя шанцы, лёгка будзеш ажыццяўляць змены; запануеш над кожнай сітуацыяй.

**(21.04. — 21.05.)** Да 21.08. можаш ісці на кампраміс. Важныя размовы, дамовы. З 23.08. адчуеш сябе ўпэўнена і бяспечна, чакае цябе мілы сюрпрыз. Замест кахання можа быць вельмі добрае сяброўства. Калі выбіраешся ў дарогу, распытай, ці хто цябе возьме з сабою (прапановы супольных падарожжаў пашукай у інтэрнэце).

**(22.05. — 22.06.)** Не выбухай з-за павольнасці іншых! Блізкіх заінспіруеш і натхніш. У пары, калі былі скрыгаты — пачнецца спакой. Можаш сардэчна пагадзіцца з кімсьці, хто быў табе несімпатычны (сардэчнасці хопіць ненадоўга). Добрыя нагоды для адпачынку. Але на працы прыпомніш пра ўсе няскончаныя справы, і не ўсядзіш на месцы. Маеш шанцы на вяртанне грошай са страхоўкі, са спадчыны.

**(22.06. — 23.07.)** 21-25.08. магчымыя вельмі прыкрыя сітуацыі ў міжасобасных адносінах. Але 23-27.08. не павінна цябе нішто вывесці з раўнавагі і папсаваць табе настрой. З 25.08. (да 28.08.) вернецца да цябе зробленае табой камусьці дабро. Той, хто да цябе салодка ўсміхаецца, не мусіць жадаць табе аднаго дабра. З 24.08. неканвенцыянальныя дзеянні прынясуць карысці. Але з 25.08. (да 29.08.) можа зваліцца на цябе лавіна крытыкі.

**(24.07. — 23.08.)** 19.08. можаш камусьці закрунуць у галаве. Да 22.07. змены да лепшага. Крыху горшае самаадчуванне, немагчымасць зрэалізаваць тое, што хацелася б, фінансавыя завіраванні, надта многа абавязкаў, але з кожным днём штораз лепш. Пад канец тыдня пачнецца раўнавага ва ўсім. Цешся летам!

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш самаўпэўнены, справішся з усімі, нават нечаканымі, сітуацыямі. Не кіруйся прадузятасцю. На галаву зваліцца работа, ды прыбытковая, за якую возьмешся з вялікай энергіяй, падгоніш таксама ўсе «хвасты». З 19.08. (да канца месяца) удасца табе аформіць усе цяжкія справы. З 23.08. (да 27.08.) узмоцніш сваю пазіцыю ў сям'і.

**(24.09. — 23.10.)** З 19.08. можаш выбрацца ва ўстанову, калі хочаш аформіць свой бізнес. 19.08. вельмі ўдала на рынку. Але не будзь лішне даверлівы. Асцерагайся манюк. Не дайся злавіцца на ўяву залатых гор! З 25.08. у тваёй пары можа запахнуць здрадай. Затое на працы прыбыткова, у добрых ладах з калектывам. Пільнуй свае ступакі, асабліва на басейне.

**(24.10. — 22.11.)** Новыя магчымасці, удачы. Прыхільнасць кіраўніцтва. Маеш харызму! — пераканаеш усіх, нават сапернікаў. Можаш здабыць нават недасягальнае дагэтуль. Пошукі духоўныя, філасофскія. Будзеш прадпрымальны, працавіты, паспяховы. Хаця калі працуеш на сваім, некаторыя справы будуць цягнуцца. І лепш абмінай крамы і латкі.

**(23.11. — 22.12.)** 19.08. можа ў табе прачнуцца мастацкі талент. Удалы адпачынак, падарожжы. Асцерагайся бравурнасці і агрэсіўных паводзін. І сам не правакуй! У сямейных канфліктах памогуць сябры. Задавальненне тым, што маеш. Не наракай на самоту і манатонную працу. Усё магчыма! Самотны Стралец можа закахацца.

**(23.12. — 20.01.)** Афармляй важныя справы. 19.08. можаш наладзіць важныя і цікавыя знаёмствы. Пакажаш сваю халаднакроўнасць. Знаёмыя могуць цябе горка расчараваць. Асцерагайся дарагіх пакупак і пазык. З 23.08 (да 27.08.) засяродзішся і дасягнеш самую важную мэту; новыя зацікаўленні і хобі. 22.08. рушыць важнае мерапрыемства. Грошы дастанеш і з-пад зямлі.

**(21.01. — 19.02.)** 19.08. удалыя падарожжы, файная забава. Але будзь асцярожны з новымі знаёмствамі; старыя сябры будуць падтрымкай і асалодай. Пазбудзешся траўмаў, апасак. Можа трэба будзе штосьці паправіць ці дарабіць на працы. Дбай аб добрую арганізацыю дня, высыпайся, варушыся на адкрытым паветры.

**(20.02. — 21.03.)** Добра загуляеш і адпачнеш. Рыхтуючы якісьці праект, добра плануй (23.08.-27.08.). На працы будзеш сумленны і адданы. Лішне не балбачы. З 23.08 (да 27.08.) атрымаеш карысную прапанову працы або супрацы. Задумаешся: быць ці мець? Пазбудзься лішняга багажу, раздай непатрэбныя рэчы. Каб супакоіцца, еж прэпараты з магніем ды свежую гародніну і плады.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. сітуацыя, калі мяч выходзіць за мяжу футбольнага поля = 10 _ 11 _ 9 _;
2. вялікая крэдытная ўстанова = 18 _ 19 _ 13 _ 1 _;
3. французскі Іван = 12 _ 23 _ 16 _;
4. марка савецкіх матацыклаў з Іжэўска = 17 _ 3 _;
5. біблейскі пакутнік = 14 _ 2 _ 15 _;
6. канечнасць з каленам = 4 _ 5 _ 20 _ 21 _;
7. лодка з ветразем = 6 _ 7 _ 22 _ 8 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 30 нумара**

Зубр, караед, ануча, склеп, муза, кудзеля, Богша, іўрыт, квас, уезд, бульба, лапа, кісларод, качан, перац, хрэн, пані, паніч, клець.

Рашэнне: **Добраму чалавечку добра і ў запечку, а благаце дрэнна і на куце**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.

Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.

Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl

Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Маё Кіліманджара

## частка 2

Калі глядзець на мапу ад левага боку да правага (або наадварот), то відно, якая вялікая Расія, як далёка ад нас Кітай ці Японія, або — у другі бок — Амерыка. Ёсць адчуванне адлегласці. Геаграфічная шырыня, то-бок рух па лініі поўнач-поўдзень такога адчування не дае. Тым часам самалёт з Амстэрдама ў аэрапорт Кіліманджара ляціць столькі што ў Нью-Йорк — восем гадзін. Над ладнай часткай Еўропы, Міжземным морам, велічэзнымі афрыканскімі краінамі: Егіптам, двума Суданамі, Кеніяй, ажно за экватар, што выразна пакажуць нам ноччу зоркі. Вялікая Мядзведзіца легла на спіну, а Малая з пуцяводнай у нашых шыротах Паўночнай зоркай схавалася за небакраем. Тут вандроўнікаў вядзе Крыж Поўдня.

Другая афрыканская неспадзяванка — тэмпература. З Польшчы вылятаелі мы ў трыццаціградусную спякоту, а ў Мошы было ўсяго дваццаць пяць. Ноччу, нягледзячы на тое, што тэарэтычна была ўжо сухая пара, пайшоў дождж, пасля якога яшчэ раніцай над горадам віселі цяжкія хмары. У іх дзесьці і хавалася Кіліманджара.

Трэцяе, на што я адразу звярнуў увагу на вуліцы, гэта людзі ў густоўнай вопратцы. Праўда, сустракаюцца мінакі ў майках і гумовых шлёпанцах, але больш усё-такі мужчын у кашулях, пінжаках, а жанчыны дык наогул заварожваюць каляровымі сукнямі, фантазійнымі прычоскамі і элегантнай паходкай. Асабліва масайкі, якія любяць яркі чырвоны колер і яшчэ вылучаюцца ростам, стройнасцю і годнасцю ў паходцы.

— Паглядзі, тут амаль ніхто не сядзіць без работы, — кажа Лешак Ціхы. — Першым на гэта звярнуў мне ўвагу Януш Палікот, які аднойчы прыязджаў сюды са мною. Ён як дасведчаны прадпрымальнік і палітык з філасофскай падрыхтоўкай і разуменнем грамадскіх з'яў пахадзіў па вуліцах, паглядзеў і аўтарытэтна сцвердзіў: голад тут не пагражае.

Сапраўды, на вуліцах двухсоттысячнага Мошы рух вялікі, як на праезджай частцы, так і на ўзбочынах, якія толькі ў цэнтры нагадваюць нашы тратуары — няроўныя і дзіравыя. Тым не менш, на іх і побач з імі бурліць жыццё: офісы, крамы, кавярні, рэстараны. І характэрны элемент краявіду гэтага горада, якога я раней нідзе не бачыў: многа людзей (так жанчын, як і мужчын) за швейнымі машынамі «Зінгер», якія прама на вуліцы штосьці шыюць, зашываюць, перарабляюць. На свежым паветры, у нязмушанай гутарцы з кліентамі і проста прахожымі. Фурчыць кола, стукоча іголка, нага рытмічна націскае педаль, рука спакойна перабірае каляровую тканіну... У гэтай карціне ёсць нешта прыцягальнае, асабліва калі ў яе цэнтры вянок прыгожых, гаваркіх танзанiек.

Калі ў Мошы найбольш папулярным заняткам падаецца кравецтва, то за горадам — сталярства. Уздоўж адной з важнейшых камунікацыйных артэрый краіны — дарогі з Арушы (брама ў нацыянальныя паркі Серэнгеці і Нгарангора) у парты Мамбаса (Кенія) і Танга, а далей у пяцімільённую метраполію Дар-эс-Салам — жыццё круціцца так сама хутка як і ў горадзе. Паміж заправак, крамаў і прыдарожных ларкоў часта сваю прадукцыю выстаўляюць сталяры. Найчасцей, як мне падалося, ложкі і труны. Пры чым, ужо з акна машыны можна ацаніць, што мясцовыя сталяры не столькі майстры, колькі артысты. Не ведаю, ці выгодныя тыя ложкі для вечнага ляжання, затое без сумневу можна сказаць, што ружовыя труны — незямная прыгажосць.

* * *

Дарога з Мошы да галоўнай брамы Нацыянальнага парку лагодна, тым не менш пастаянна падымаецца ўверх. З тысячы метраў над узроўнем мора едзем на дзве тысячы. Бус няспешна бярэ чарговыя павароты, часта спыняе ход на «спячых паліцыянтах». За прыдарожнымі пасёлкамі ўдалі відаць саванну: высокія травы, перапканыя акацыямі. Пару разоў у акне з'яўляецца баабаб. Што гэта рэдкасць, сведчыць рэакцыя нашых праваднікоў, якія тут жа паказваюць пальцамі гэтае здаравеннае некалькісотгадовае дрэва. Сланоў, жыраф і львоў не відно. Адзінае, што неяк можна падцягнуць пад афрыканскую фаўну, гэта пешаходныя зебры, якіх нямала ў густа населеным месцы.

Паабапал дарогі краявід мала экзатычны: палі кукурузы з інфармацыяй на жоўтых дошчачках пра гатунак пасеянага зерня. А на самым пад'ездзе да парку — мяшкі з бульбай, пры чым звычайнай, жаўтаватай, як і ў нас. І людзі таксама горбяцца на загонах як пад Бельскам ці Гайнаўкай. Толькі цёмны колер скуры капальнікаў усведамляе, што ўсё-такі ад'ехаліся мы за тысячы кіламетраў.



Крыху прыроды: саванна на фоне Мавэнзі — меншай вяршыні Кіліманджара (5150 метраў)





Дарэчы, бульба была адной з асноўных страў на нашым шляху, побач рысу і макаронаў. Праўда, што мала экзатычна? Затое смачна. Мушу прызнаць, што ў Танзаніі варэць яе ў падобны спосаб як і ў нас, так каб рассыпалася, або як у мяне ў хаце казалі: мучаную. Амерыканцы ці немцы ніколі гэтаму не навучыліся. А танзанійцы — калі ласка.

Дарэчы, ішлі з намі тры кухары, якія тры разы на дзень гатавалі свежую страву. У групе былі грузчыкі і праваднікі, не ведаю колькі каго, затое падзел між імі важны. Каб стаць праваднікам, трэба некалькі гадоў панасіць торбы турыстаў уверх і ўніз і здаць даволі цяжкі экзамен, перш-наперш з ведання замежных моў. Адзін з праваднікоў, Салім, казаў мне, што ведае, апрача англійскай, французскую, іспанскую і нямецкую мовы. Хай сабе гэтыя веды абмяжоўваюцца да практычнай інфармацыі на шляху, тым не менш. І яшчэ праваднікі могуць хадзіць на вяршыню не часцей чым два разы ў месяц. Праўда, фізічна было б цяжка, бо ў сярэднім такая прагулка працягваецца каля тыдня, але прычына такога абмежавання больш практычная: трэба даць зарабіць іншым.

Можа падацца вялікапанскай фанабэрыяй тое, што турысты не нясуць свайго багажу. Нягледзячы на тое, што большая частка з ім далёка не дайшла б, то нават самыя моцныя не могуць гэтага рабіць. Так як і індывідуальна швэндацца па нацыянальным парку. Трэба зняць мясцовае турыстычнае агенцтва, якое бярэ на сябе ўсе бюракратычныя абавязацельствы, забяспечвае пашпартовы ўваход і выхад ды дбае пра твой камфорт. Такім чынам Кіліманджара гэта не толькі пастаянны элемент краявіду, але і найбольшы кармілец у рэгіёне.

З нашай групай з дзевяці асоб ішло дваццаць сем мясцовых. Пры чым падлічылі мы іх толькі ў апошні дзень, калі развітваліся і з песнямі ды танцамі развітваліся.

* * *

На вяршыню вядуць розныя шляхі. Мы выбралі дарогу Рангай (*Rongai Route*), з поўначы. Некалькі дзён будзем глядзець зверху не на Танзанію, а на Кенію, якая пачынаецца тут жа на подступах да Даху Афрыкі. Або Гары Бога, як тлумачыцца з мовы мясцовага народа джага слова Кіліманджара.

Спачатку аднак на ўваходзе ў парк трэба прайсці рэгістрацыю ўсіх удзельнікаў групы (будзем яе паўтараць па дарозе ў кожнай базе) і з узважвання багажу. Абавязвае строгі закон — насільшчык не можа несці на сваёй спіне, а часцей на галаве больш чымсьці дваццаць пяць кілаграмаў. Калі ўлічыць тое, што нясе свае рэчы і палаткі, ежу, а на першым этапе таксама ваду, то не выпадае даць яму больш за пятнаццаць кілаграмаў. Раней, праўда, насільшчыкі за даплатай бралі на сваю галаву і большы цяжар, але цяпер такія здзелкі забароненыя. Так што лепш загадзя дакладна падумаць, што з сабою ўзяць, каб на месцы не выкідаць непатрэбшчыну.

І яшчэ адна практычная парада наконт багажу. Лепш пакавацца ў простую торбу з цвёрдым дном, чымсьці ў турыстычны рукзак. Насільшчыкі і так укідваюць наш багаж у мяшок, які ім выгадней несці і які засцерагае пакунак ад дажджу. Торбы лепш упакоўваюцца. Ды і на станцыі выгадней з іх выцягваць патрэбныя нам рэчы. Разуменне гэтай ісціны з'явіцца на шляху.

Пакуль чакае нас прыемны шпацыр праз джунглі. У цяньку, па гладкай сцежцы пад спеў птушак і зрэдчас крык малпаў. Толькі якіх тысячу метраў вышэй, калі выйдзем на саванну, пабачым *„...wielki jak świat, wspaniały, olbrzymi, nieprawdopodobnie biały i błyszczący w słońcu kwadratowy szczyt Kilimandżaro" (Ernest Hemingway, Śniegi Kilimadżaro).*

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Міколы ВАЎРАНЮКА**

ISSN 0546-1960 33